УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
"БАРАНАВІЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ"

---

Л.У. УРБАНОВІЧ

# ТЭСТЫ
# ПА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

***Падрыхтоўка да экзамена***

***Кантроль***

***Самаацэнка***

**Вучэбны дапаможнік**

**Баранавічы 2006**

УДК 821.161.3.0 (075)
ББК 83.3 (4Беи) Я73
У69

*Рэкамендавана вучэбна-метадычным саветам УА БарДУ, пратакол № 2 ад 26.10.2005 г .*

Рэцэнзент:
кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры філасофіі і гуманітарных праблем адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі **І.М. Слесарава**

**Урбановіч, Л.У.**
У69 **Тэсты па беларускай літаратуры: Падрыхтоўка да экзамена. Кантроль. Самаацэнка**: вучэб. дапаможнік.– Баранавічы: БарДУ, 2006.– 76с.– экз.

ISBN 385-498-017-0.

Тэставыя заданні, падрыхтаваныя ў адпаведнасці з праграмай па беларускай літаратуры для паступаючых у ВНУ рэспублікі, ахопліваюць шырокае кола тэм (ад старажытнасці да канца ХХ ст.) і разлічаны на сістэматызацыю, абагульненне і праверку атрыманых тэарэтычных і гісторыка-культурных ведаў.

Дапаможнік адрасуецца школьнікам, абітурыентам, студэнтам філалагічных факультэтаў. Можа быць рэкамендаваны настаўнікам школ і выкладчыкам ВНУ.

**УДК 821.161.3.(075)**
**ББК 83.3(4Беи)Я73**



**ISBN 385-498-017-0**

# ПРАДМОВА

Актуальнасць тэсціравання ў наш час абумоўлена ўкараненнем новых тэндэнцый у адукацыйным працэсе, пераарыентацыяй адукацыйнай парадыгмы на кампетэнтнасны падыход, уключэннем айчыннай адукацыйнай прасторы ў еўрапейскі кантэкст.

Тэст дазваляе хутка і эфектыўна вызначыць узровень і якасць ведаў вучняў, абітурыентаў, выявіць іх адпаведнасць патрабаванням праграм і таму знаходзіць прымяненне на ўсіх этапах літаратурнай адукацыі. Аднак не варта зводзіць функцыі тэста толькі да кантролю. Тэсты, сканструяваныя ў адпаведнасці з патрабаваннямі, спрыяюць фарміраванню шэрагу кампетэнцый школьнікаў: рэцэптыўнай, маўленчай, этнакультурнай і інш., могуць садзейнічаць працэсам ідэнтыфікацыі.

Дадзены дапаможнік ахоплівае шырокае кола тэм (ад старажытнасці да канца XX ст.) і разлічаны як на сістэматызацыю, абагульненне атрыманых тэарэтычных і гісторыка-культурных ведаў, так і на праверку падрыхтаванасці вучняў і абітурыентаў.

Дапаможнік можа быць рэкамендаваны студэнтам філалагічных факультэтаў для ўдасканалення прафесійнай падрыхтоўкі, а таксама настаўнікам школ і выкладчыкам ВНУ для выкарыстання матэрыялаў як дыдактычнага сродку і сродку кантролю на занятках па беларускай літаратуры.

У структуры дапаможніка вылучаны дзве часткі: першая – зарыентавана на школьнікаў і абітурыентаў, другая – на студэнтаў-філолагаў.

У тэсце выкарыстаны заданні закрытага і адкрытага тыпу, творчыя заданні (група С). Для актуалізацыі тэарэтычных ведаў уключаны тэзаўрус. Пасля кожнага тэста змешчаны ключы. У асобных тэставых заданнях пададзена адна з магчымага шэрагу фармулёвак (напрыклад, у вызначэнні тэмы твора могуць быць варыянты словаўжывання).

## ТЭСТ 1

А1. Назавіце знакамітых людзей Полаччыны:
1. Рагвалод
2. К. Тураўскі
3. С. Будны
4. Ф. Скарына
5. В. Цяпінскі

А2. Вызначце жанры літаратуры, характэрныя для старажытнага беларускага пісьменства:
1. хаджэнні
2. казкі
3. жыціі
4. прыказкі
5. казанні

А3. Успомніце старонкі беларускай гісторыі, адлюстраваныя ў "Слове пра паход Ігаравы":
1. смерць Рагвалода
2. княжанне Усяслава
3. лёс непакорлівай Рагнеды
4. бітва на Нямізе
5. Грунвальдская бітва

А4. Прадстаўнікамі эпохі Адраджэння з'яўляюцца:
1. Я. Чачот
2. В. Шэкспір
3. Ф. Скарына
4. С. Полацкі
5. Леанарда да Вінчы

А5. Абазначце літаратурную спадчыну Ф. Скарыны:
1. напісаныя ім 23 кнігі Бібліі
2. прадмовы і пасляслоўі да выданняў Бібліі
3. пераклады
4. некалькі сілабічных вершаў
5. зборнік "Рыфмалагіён"

А6. Пранумаруйце творы ў храналагічнай паслядоўнасці паводле часу іх напісання:
"Энеіда навыварат"
"Песня пра зубра"
"Трэцяе пакаленне"
"Малады дубок"
"Каласы пад сярпом тваім"

А7. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":
1. класіцызм, рэалізм, камедыя
2. раман, нарыс, байка

3. "Сотнікаў", "Птушкі і гнёзды", "Знак бяды"
4. "Жалейка", "Гусляр", "Песні-жальбы"
5. Ф. Скарына, С. Будны, Ф. Багушэвіч

А8. Няправільным з'яўляецца наступнае сцвярджэнне:
1. Верлібр –лірычны верш з 14 радкоў і асаблівай рыфмоўкай.
2. Сімвал – умоўнае абазначэнне з'явы праз вобраз, які нечым нагадвае гэту з'яву.
3. Тэма – галоўная думка твора.
4. Трылогія – тры творы, аб'яднаныя адзінай ідэйна-тэматычнай задумай.
5. Рамантызм – літаратурны напрамак к. XVIII – п. XIX ст., характэрнай асаблівасцю якога з'яўляюцца крытычныя адносіны да існуючага ладу. Героі твораў – мужныя, смелыя, незалежныя.

А9. "Знакамі бяды" ў аднайменнай аповесці В. Быкава выступаюць:
1. мёртвы жаваранак
2. знявечанае дрэва (ліпа)
3. карова Бабоўка
4. смерць пастушка Янкі
5. рэшткі сядзібы

А10. Вызначце характар канфлікту, пакладзенага ў аснову камедыі "Пінская шляхта" В.І. Дуніна-Марцінкевіча:
1. сацыяльна-бытавы
2. грамадска-палітычны
3. канфлікт бацькоў і дзяцей
4. любоўны
5. псіхалагічны

Аб'яднайце адной і той жа лічбай адпаведныя літаратурныя з'явы:

А11.

| | |
|---|---|
| 1. "Энеіда" | В.І. Дунін-Марцінкевіч |
| 2. "Гапон" | М. Багдановіч |
| 3. "Пагоня" | У. Караткевіч |
| 4. "Нявесце Каліноўскага" | Я. Купала |
| 5. "Сымон-музыка" | А. Гарун |
| | Вергілій |

А12.

| | |
|---|---|
| 1. Ф. Багушэвіч | грамадзянскасць |
| 2. П. Панчанка | публіцыстычнасць |
| 3. Я. Колас | рэалізм |
| 4. Я. Брыль | аўтабіяграфічнасць |
| 5. У. Караткевіч | лірызацыя прозы |
| | рамантызм |

А13.

| | |
|---|---|
| 1. "Песні-жальбы" | Я. Купала |
| 2. "Вячэрнія ветразі" | А. Гарун |
| 3. "Матчын дар" | У. Караткевіч |

| | |
|---|---|
| 4. "Вянок" | М. Багдановіч |
| 5. "Шляхам жыцця" | Я. Колас |
| | М. Танк |

A14.

| | |
|---|---|
| 1. Торба | "Тутэйшыя" |
| 2. Мікіта Зносак | "Вязьмо" |
| 3. Кастусь Лукашэвіч | "На ростанях" |
| 4. Патап Каландзёнак | "Пошукі будучыні" |
| 5. Пацяроб | "Запіскі Самсона Самасуя" |
| | "Знак бяды" |

A15. Суаднясіце гады жыцця з імёнамі пісьменнікаў:

| | |
|---|---|
| 1. 1896–1991 | Я. Купала |
| 2. 1882–1942 | К. Чорны |
| 3. 1924–2003 | Я. Колас |
| 4. 1900–1944 | В. Быкаў |
| 5. 1882–1956 | К. Крапіва |

A16. Выразнікам аўтарскага погляду ў рамане "Вязьмо" М. Зарэцкага з'яўляецца:
1. Карызна
2. Засуліч
3. Галілей
4. Пацяроб
5. Зелянюк

A17. У беларускай літаратуры па аб'ектыўных прычынах не склаўся:
1. рамантызм
2. класіцызм
3. рэалізм
4. сентыменталізм
5. мадэрнізм

A18. Назавіце гістарычную падзею, якая стала для Цёткі (Алаізы Пашкевіч) штуршком да напісання верша "Хрэст на свабоду":
1. пачатак першай сусветнай вайны
2. абуджэнне нацыянальна-вызваленчага руху
3. расстрэл мірных дэманстрантаў 9 студзеня 1906 г.
4. выхад зборніка"Хрэст на свабоду"
5. смерць бацькі

A19. Падкрэсліце прозвішчы пісьменнікаў, якія з'яўляюцца псеўданімамі:
1. Я. Купала
2. Я. Колас
3. Цётка
4. В. Быкаў
5. Я. Баршчэўскі

A20. Прататыпаў маюць наступныя літаратурныя героі:
1. Ядвіся Бараноўская
2. Мікіта Зносак

3. Алесь Руневіч
4. Алесь Загорскі
5. Ганна Чарнушка

A21. Падкрысліце творы, якія не належаць Я. Купалу:
1. "Бандароўна"
2. "Сымон-музыка"
3. "Хамуціус"
4. "Яна і я"
5. "Калыска чатырох чараўніц"

A22. Суаднясіце цытату з назвай твора:

| | |
|---|---|
| 1. Дыдона варыва ўлівала,<br>Шматкамі мяса ў місы клала<br>І забяляла малаком. | "Песня пра зубра" |
| 2. Кіўнуў Зевес – і мігам Геба<br>Крупені ў міску наліла<br>І добрую краюху хлеба,<br>Сказаўшы: еж, – мне падала. | "Тарас на Парнасе" |
| 3. Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх,<br>Граматах рускіх, кірыліцай пісаных вязкай. | "Раскіданае гняздо" |
| 4. "Чалавек з зямлёй зрастаецца, як гэта дрэва: ссячы дрэўца – засохне, адбяры ў чалавека зямлю – загіне". | "Каласы пад сярпом тваім" |
| 5. "Варты жалю той, хто не ведае былога дня і таму не можа разабрацца ў сённяшнім і прадбачыць будучы... Абыякавы да мінулага не мае ніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай і таму ёсць першы кандыдат на маральную і фізічную смерць". | "Энеіда навыварат" |

A23. Пазнайце героя па апісанні:

1. "Гэта яшчэ малады чалавек, гадоў за трыццаць. Рысы яго твару строгія, нават халодныя. Вочы ўдумлівыя, і ўся сухарлявая і моцная постаць выкрывае ў ім чалавека выдатнага"..........................................................................................

2. "Выйшаў на ганак, пацягваючыся, хлопец з хмурымі і заспанымі вачыма, з калматай ні то русявай, ні то цёмнай чупрынай"......................................................

3. "Ён быў у новым касцюме, у скураных блішчастых галіфэ, у блішчастых ботах, сам увесь блішчасты: твар ільсніўся чырвона, як памазаны салам"...........

4. "Невысокі, каржакаваты, з цёмна-русымі прыгожымі валасамі. Рысы ў хлопца былі няправільныя, але буйныя і нават у чымсьці прыгожыя"................

5. "Больш тонкі. Цёмны скурай. З простым носам, але з крутымі ноздрамі. Са спакойным, не па-дзіцячаму цвёрдым ротам"........................................................

A24. Словамі *"Груша цвіла апошні год. Усе галіны яе ... былі ўсыпаны буйным бела-ружовым цветам"* пачынаецца раман:
1. "Людзі на балоце"
2. "Сэрца на далоні"
3. "Каласы пад сярпом тваім"

4. "Вязьмо"
5. "Птушкі і гнёзды"

А25. З працай Андрэя Лабановіча звязаны наступныя мясціны:
1. Цімкавічы
2. Цельшына
3. Люсіна
4. Выганы
5. Верхмень

В1. Укажыце твор, герой якога
1. робіць аперацыі на сэрцы ................................................................................
2. з'яўляецца "свядомым беларусам" ...................................................................
3. сябруе з Кастусём Каліноўскім .........................................................................
4. працуе лесніком у князя Радзівіла .....................................................................
5. двойчы ўцякае з нямецкага канцэнтрацыйнага лагера ......................................

В2. Вызначце тэму і ўкажыце аўтара прапанаваных вершаў:
1. "Балада аб чатырох заложніках" ......................................................................
2. "Той дзень прапаў і страчаны навекі" ..............................................................
3. "А хто там ідзе?" ...............................................................................................
4. "Зорка Венера" ..................................................................................................
5. "Дурны мужык, як варона" ...............................................................................

В3. Замяніце літаратуразнаўчыя тэрміны беларускімі адпаведнікамі:
1. іронія.................................................................................................................
2. верлібр...............................................................................................................
3. алегорыя............................................................................................................
4. гіпербала...........................................................................................................
5. метафара............................................................................................................

В4. Запішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які
1. стварыў адзіны зборнік вершаў, напісаных ва ўмовах сібірскай катаргі.........
2. раскрыў антыгуманную сутнасць калектывізацыі ў рамане, напісаным па гарачых слядах падзей ....................................................................................
3. выдаваў газету "Мужыцкая праўда" ...............................................................
4. выдаў абодва зборнікі паэзіі за межамі Беларусі ............................................
5. напісаў аповесць у форме дзённіка ..................................................................

В5. Дапоўніце сцвярджэнні:
1. Званне народнага паэта Я. Купале прысвоілі ў................................................
2. Першымі беларускімі газетамі з'яўляюцца .....................................................
3. У весцы Нізок нарадзіліся ...............................................................................
4. Мясціны Юзэфова, Косіна, Сенніца, Селішча звязаны з жыццём.................
5. Заснавальнікам гістарычнай тэмы ў беларускай літаратуры з'яўляецца......

## АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 1

А1. 1, 4
А2. 1, 3, 5
А3. 2, 4
А4. 2, 3, 5
А5. 2, 3, 4
А6. 2, 1, 4, 3, 5
А7. 1. камедыя
2. байка
3. "Птушкі і гнёзды"
4. "Песні-жальбы"
5. Ф. Багушэвіч
А8. 1, 3
А9. 1, 2, 5
А10. 1, 2, 3
А11. 1. "Энеіда" – Вергілій
2. "Гапон" – В. Дунін-Марцінкевіч
3. "Пагоня" – М. Багдановіч
4. "Нявесце Каліноўскага" – У. Караткевіч
5. "Сымон-музыка" – Я. Колас
А12. 1. Ф. Багушэвіч – рэалізм, грамадзянскасць
2. П. Панчанка – публіцыстычнасць
3. Я. Колас – аўтабіяграфічнасць
4. Я. Брыль – лірызацыя прозы
5. У. Караткевіч – рамантызм
А13. 1. "Песні-жальбы" – Я. Колас
2. "Вячэрнія ветразі" – У. Караткевіч
3. "Матчын дар" – А. Гарун
4. "Вянок" – М. Багдановіч
5. "Шляхам жыцця" – Я. Купала
А14. 1. Торба – "Запіскі Самсона Самасуя"
2. Мікіта Зносак – "Тутэйшыя"
3. Кастусь Лукашэвіч – "Пошукі будучыні"
4. Патап Каландзёнак – "Знак бяды"
5. Пацяроб – "Вязьмо"
А15. 1. 1896–1991 – К. Крапіва
2. 1882–1942 – Я. Купала
3. 1924–2003 – В. Быкаў
4. 1900–1944 – К. Чорны
5. 1882–1956 – Я. Колас
А16. 3
А17. 2
А18. 3
А19. 1, 2, 3
А20. 1, 3
А21. 2, 3, 5
А22. 1. "Энеіда навыварат"
2. "Тарас на Парнасе"
3. "Песня пра зубра"
4. "Раскіданае гняздо"
5. "Каласы пад сярпом тваім"

A23. 1. Аксён Каль
2. Васіль Дзяцел
3. Яўхім Глушак
4. Кастусь Каліноўскі
5. Алесь Загорскі

A24. 3

A25. 2, 4, 5

B1. 1. Антон Яраш
2. Янка Здольнік
3. Алесь Загорскі
4. Міхал
5. Алесь Руневіч

B2. 1. тэма Вялікай Айчыннай вайны, А. Куляшоў
2. тэма чалавечнасці, маральнага абавязку, П. Панчанка
3. тэма чалавечай годнасці беларусаў, Я. Купала
4. тэма кахання, М. Багдановіч
5. тэма сацыяльнай несправядлівасці, Ф. Багушэвіч

B3. 1. насмешка
2. свабодны верш
3. іншасказанне
4. перабольшванне
5. перанос

B4. 1. А. Гарун
2. М. Зарэцкі
3. К. Каліноўскі
4. Ф. Багушэвіч
5. А. Мрый

B5. 1. у 1925 годзе
2. "Наша доля", "Наша ніва"
3. К. Крапіва, А. Васілевіч, П. Трус
4. Я. Купала
5. У. Караткевіч

## ТЭСТ 2

A1. Першапачатковай крыніцай звестак аб Ефрасінні Полацкай з'яўляецца:
1. аповесць "Прадслава"
2. "Жыціе Ефрасінні Полацкай"
3. "Аповесць мінулых гадоў"
4. "Памяць пра легенды"
5. "Асветніца з роду Усяслава"

A2. Вызначце жанры літаратуры, уласцівыя для старажытнага беларускага пісьменства:
1. летапісы
2. словы-казанні
3. вершы
4. прытчы
5. замовы

А3. Перакладчыкамі "Слова аб палку Ігаравым" на беларускую мову выступілі:

1. Вацлаў Ластоўскі
2. Янка Купала
3. Уладзімір Арлоў
4. Леанід Дайнека
5. Рыгор Барадулін

А4. Прадстаўнікамі эпохі Адраджэння з'яўляюцца:

1. С. Будны
2. М. Гусоўскі
3. А. Міцкевіч
4. Ф. Багушэвіч
5. Х. Калумб

А5. З жыццём і дзейнасцю Ф. Скарыны звязаны:

1. Рым
2. Падуя
3. Полацк
4. Гдыня
5. Кракаў

А6. Пранумаруйце творы ў храналагічнай паслядоўнасці паводле часу іх напісання:

"Катэхізіс"
"Тарас на Парнасе"
"Курган"
"Гапон"
"Сэрца на далоні"

А7. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":

1. рамантызм, сентыменталізм, псіхалагізм
2. аповесць, балада, раман
3. "На ростанях", "Малады дубок", "Бандароўна"
4. "Шляхам жыцця", "Вянок", "Энеіда навыварат"
5. М. Танк, А. Рымша, П. Панчанка

А8. Знайдзіце памылковыя азначэнні літаратуразнаўчых паняццяў:

1. Ідэя – тое, аб чым гаворыцца ў творы.
2. Лірычны герой – вобраз той асобы, ад імя якой ідзе размова ў лірычным творы.
3. Балада – сюжэтны верш гераічнага, легендарнага або бытавога зместу, у якім расказваецца пра незвычайнае здарэнне.
4. Рэалізм – мастацкі метад, які ставіць мэтай праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці ў яе тыповых формах.
5. Дылогія – мастацкі твор, які складаецца з трох самастойных твораў, аб'яднаных аднымі героямі і звязаных сюжэтна.

А9. У "Палескай хроніцы" І. Мележа знайшлі адлюстраванне праблемы:

1. кахання
2. улады

3. узаемадачынення мастака і ўлады
4. узаемаадносін бацькоў і дзяцей
5. самакаштоўнасці чалавека ў часы значных грамадскіх пераўтварэнняў

А10. Станаўленне асобы Алеся Загорскага вызначалі наступныя ўмовы:
1. дзядзькаванне ў сялянскай сям'і Кагутоў
2. імкненне адкрыць сучаснікам свой народ шляхам вывучэння яго духоўнай спадчыны
3. наведванне магільні Загорскіх
4. далучэнне да шляхецкага этыкету
5. зближэнне з Геленай, нараджэнне дзяцей

Вызначце прыналежнасць літаратурных з'яў шляхам пастаноўкі адпаведных лічбаў у правым слупку:

А11.

| | |
|---|---|
| 1. "Тарас на Парнасе" | Я. Колас |
| 2. "Сялянка" ("Ідылія") | К. Вераніцын |
| 3. "Слуцкія ткачыхі" | В. Равінскі |
| 4. "Чорны замак Альшанскі" | М. Багдановіч |
| 5. "Новая зямля" | У. Караткевіч |
| | В. Дунін-Марцінкевіч |

А12.

| | |
|---|---|
| 1. І. Шамякін | біяграфізм |
| 2. Я. Купала | двухпланавасць паказу жыцця |
| 3. М. Танк | рамантызм |
| 4. А. Міцкевіч | філасафічнасць |
| 5. Я. Чачот | рэалізм |
| | публіцыстычнасць |

А13.

| | |
|---|---|
| 1. "Гусляр" | П. Панчанка |
| 2. "Вязанка" | А. Міцкевіч |
| 3. "Высокі бераг" | Я. Купала |
| 4. "Самота паломніцтва" | Р. Барадулін |
| 5. "Мой хлеб надзённы" | М. Танк |
| | Я. Лучына |

А14.

| | |
|---|---|
| 1. Янка Здольнік | "Сэрца на далоні" |
| 2. Аксён Каль | "Каласы пад сярпом тваім" |
| 3. Кірыла Шыковіч | "На ростанях" |
| 4. Канстанцін Кроер | "Пошукі будучыні" |
| 5. Волечка Нявада | "Дзве душы" |
| | "Тутэйшыя" |

А15. Суаднясіце гады жыцця з імёнамі пісьменнікаў:

| | |
|---|---|
| 1. 1891–1917 | М. Багдановіч |
| 2. 1490–1551 | М. Гарэцкі |
| 3. 1893–1938 | Ф. Скарына |

4. 1921–2004 І. Мележ
5. 1921–1976 І. Шамякін

А16. У стварэнні вобраза Гарлахвацкага важнейшую ролю адыгрываюць:
1. яго самавыкрывальныя маналогі
2. аўтарская характарыстыка героя
3. ускосная іранічная характарыстыка персанажа другараднымі героямі п'есы
4. камічныя сітуацыі, у якія трапляе кар'ерыст
5. апісанне знешняга выгляду

А17. Абазначце творы, напісаныя ў форме дзённіка:
1. "Вязьмо"
2. "Запіскі Самсона Самасуя"
3. "У вайны не жаночае аблічча"
4. "На імперыялістычнай вайне"
5. "Чорная быль"

А18. Укажыце імя беларускага пісьменніка, які ў судовай практыцы і літаратурнай творчасці быў адвакатам, абаронцам мужыка:
1. М. Гарэцкі
2. С. Будны
3. Ф. Багушэвіч
4. Я. Купала
5. А. Мрый

А19. Прататыпаў маюць наступныя літаратурныя героі:
1. Лявон Задума
2. Яўхім Глушак
3. Міканор Дамецік
4. Антон Яраш
5. Халімон Глушак

А20. Падкрэсліце прозвішчы пісьменнікаў, якія з'яўляюцца псеўданімамі:
1. Ф. Багушэвіч
2. П. Панчанка
3. І. Шамякін
4. М. Танк
5. У. Сыракомля

А21. Якія з пералічаных твораў не належаць Я. Коласу:
1."Дрыгва"
2. "Яна і я"
3. "Сымон-музыка"
4. "Казкі жыцця"
5. "Бандароўна"

А22. Суаднясіце цытату з назвай твора:

| | |
|---|---|
| 1. Добры ўдаўся: позна ляжа,<br>Рана ўстане і адлогу<br>Не запусце... спагадлівы, | Прадмова да зборніка<br>Ф. Багушэвіча<br>"Дудка беларуская" |

Маю сына, хоць не родны.
Ажаню, як буду жывы.

2. "Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю". — "На ростанях"

3. Авохці мне! Як там прыгожа!
Як быццам хто намаляваў!
Чырвоны краскі, мак і рожа –
Ну, як сукенку хто паслаў! — "Кепска будзе"

4. Але Юнона, баба злая, –
Адроддзя панскага, ліхая! –
Шукала ўсё яго згубіць,
На дно ў пекла пасадзіць. — "Тарас на Парнасе"

5. "Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка. Ён першым тут вітаў надыход дня, і песня разлівалася ў маўклівым паветры звонам тонкага дарагога металу ". — "Энеіда навыварат"

A23. Пазнайце герояў па апісанні:

1. "Яна сядзела, трохі паддаўшыся наперад. Тонкі твар быў трохі бледны. Яна раптам сцёбнула коней і звярнула направа, прэч ад Загоршчыны". — Міхаліна Раўбіч

2. "Не было такой хвіліны, каб вочы яе, вільготна-цёмныя, падобныя на спелыя вішні, былі абыякавыя, нудлівыя, увесь час блішчэла, ззяла ў іх няўціхлае хваляванне". — Яўхім Глушак

3. "Ён быў у новым касцюме, у скураных блішчастых галіфэ, у блішчастых ботах, сам увесь блішчасты. Нават вочы былі быццам памазаныя, блішчалі масляніста, радасна". — Бандароўна

4. Як маліны, яе губкі,
А твар, як лілея,
Як дзве зоркі, яе вочы,
Гляне – свет яснее. — пан Быкоўскі

5. "Адным словам, хлапец шляхецкага заводу, з рызыкай, з усякай далікатнасцяй і ўсё такое..." — Ядвіся Бараноўская

A24. Які класічны твор беларускай літаратуры пачынаецца словамі: *"Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаваў бы за востраў..."*?

1. "Каласы пад сярпом тваім"
2. "На ростанях"
3. "Людзі на балоце"
4. "Сэрца на далоні"
5. "Птушкі і гнёзды"

A25. Падкрэсліце мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Я. Коласа:

1. Люсіна
2. Пінск

3. Ласток
4. Брэст
5. Цельшына

B1. Запішыце назву твора, герой (гераіня) якога

1."паспытаў бруд местачковага балота" ..............................................................

2. марыць аб зямлі, "што ля цагельні"..................................................................

3. спачатку думае прыстасавацца да нечалавечных умоў існавання, затым прыходзіць да ўсведамлення агіднасці служэння паліцаям і акупантам, адкрыта выказвае сваё абурэнне і пагарду .......................................................................................

4. з'яўляецца дырэктарам навукова-даследчага інстытута геалогіі ....................

5. будучы дваранінам, гаворыць на мужыцкай мове і марыць аб свабодзе народа .........................................................................................................................

B2. Вызначце тэму і назавіце аўтара кожнага з прапанаваных вершаў:

1. "Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая...!" ...........................................................

2. "Трэба дома бываць часцей" ...........................................................................

3. "Герой"...............................................................................................................

4. "Ты, мой брат, каго зваць Беларусам" .................................................................

5. "Маладыя гады" .................................................................................................

B3. Да іншамоўных літаратуразнаўчых тэрмінаў падбярыце беларускія адпаведнікі:

1. дыялог..................................................................................................................

2. драма...................................................................................................................

3. пралог..................................................................................................................

4. альманах.............................................................................................................

5. афарызм..............................................................................................................

B4. На месцы пропуску дапішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які

1. увёў класічныя формы ў беларускую паэзію ......................................................

2. надрукаваў першы зборнік ("Росквіт зямлі") у 16-гадовым узросце ..........

3. памёр па дарозе дадому, вяртаючыся з ссылкі, і з'яўляецца аўтарам першага беларускага сатырычнага рамана ..........................................................................

4. настаўнічаў на Палессі і напісаў аб гэтым мастацкі твор ..............................

5. прысвяціў сваю ліру рэвалюцыі 1905–1907 гг. ...................................................

B5. Дапішыце сказы:

1. Званне народнага паэта Якубу Коласу прысвоілі ў .......................................

2. Гістарычную тэму ў сучаснай беларускай літаратуры працягваюць ........

3. Мясціны Орша, Кіеў, Лесавічы, Рагачоў, Мінск звязаны з жыццём і дзейнасцю................................................................................................................

4. Першую беларускую кнігу выдаў у Нясвіжы ў 1562 годзе............................

5. У паэме М. Гусоўскага "Песня пра зубра" ўсхваляецца дзейнасць князя Вялікага княства Літоўскага........................................................................................

**АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 2**

A1. 2
A2. 1, 2, 4

A3. 2, 5
A4. 1, 2, 5
A5. 2, 3, 5
A6. 1. "Катэхізіс"
2. "Тарас на Парнасе"
3. "Гапон"
4. "Курган"
5. "Сэрца на далоні"
A7. 1. пісхалагізм
2. балада
3. "Бандароўна"
4. "Энеіда навыварат"
5. А. Рымша
A8. 1, 5
A9. 1, 2, 5
A10. 1, 2, 3, 4
A11. 1. "Тарас на Парнасе" – К. Вераніцын
2. "Пінская шляхта" – В. Дунін-Марцінкевіч
3. "Слуцкія ткачыхі" – М. Багдановіч
4. "Быў. Ёсць. Буду" – У. Караткевіч
5. "Новая зямля" – Я. Колас
A12. 1. І. Шамякін – двухпланавасць паказу жыцця
2. Я. Купала – рамантызм, біяграфізм
3. М. Танк – філасафічнасць
4. А. Міцкевіч – рамантызм
5. Я. Чачот – рамантызм
A13. 1. "Гусляр" – Я. Купала
2. "Вязанка" – Я. Лучына
3. "Высокі бераг" – П. Панчанка
4. "Самота паломніцтва" – Р. Барадулін
5. "Мой хлеб надзённы" – М. Танк
A14. 1. Янка Здольнік – "Тутэйшыя"
2. Аксён Каль – "На ростанях"
3. Кірыла Шыковіч – "Сэрца на далоні"
4. Кроер – "Каласы пад сярпом тваім"
5. Волечка Нявада – "Пошукі будучыні"
A15. 1. М. Багдановіч, 2. Ф. Скарына, 3. М. Гарэцкі, 4. І. Шамякін, 5. І. Мележ
A16. 1, 3, 4
A17. 2, 4
A18. 3
A19. 1, 3
A20. 4, 5
A21. 2, 5
A22. 1. "Кепска будзе"
2. Прадмова да зборніка Ф. Багушэвіча "Дудка беларуская"
3. "Тарас на Парнасе"
4. "Энеіда навыварат"
5. "На ростанях"
A23. 1. Міхаліна Раўбіч
2. Ядвіся Бараноўская
3. Яўхім Глушак

4. Бандароўна
5. Пан Быкоўскі

A24. 3

A25. 1, 2

B1. 1. "На ростанях"
2. "Людзі на балоце"
3. "Знак бяды"
4. "Хто смяецца апошнім"
5. "Каласы пад сярпом тваім"

B2. 1. тэма кахання, А. Куляшоў
2. тэма бацькаўшчыны, Р. Барадулін
3. тэма вайны, гераізму, П. Панчанка
4. тэма лёсу роднай мовы, А. Гарун
5. тэма маладосці, сэнсу жыцця, М. Багдановіч

B3. 1. размова
2. дзеянне
3. прадмова
4. каляндар
5. кароткае выказванне

B4. 1. М. Багдановіч
2. А. Куляшоў
3. А. Мрый
4. Я. Колас
5. Цётка

B5. 1. 1926 г.
2. Л. Дайнека, В. Іпатава, У. Арлоў, В. Чаропка, К. Тарасаў
3. У. Караткевіча
4. Сымона Буднага
5. Вітаўта

## ТЭСТ 3

A1. Ефрасіння Полацкая ўвайшла ў гісторыю беларускай культуры як
1. заснавальніца манастыроў і школ
2. народная лекарка
3. перапісчыца кніг
4. арганізатар скрыпторыяў
5. аўтар "Аповесці мінулых гадоў"

A2. Вызначце жанры літаратуры, характэрныя для старажытнага беларускага пісьменства:
1. заклінанні
2. загадкі
3. балады
4. пропаведзі
5. летапісы

A3. Першымі беларускімі газетамі з'яўляюцца:
1. "Дзянніца"
2. "Наша доля"

3. "Наша ніва"
4. "Лучынка"
5. "Северо-Западный край"

А4. Падкрэсліце назвы мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю М. Гусоўскага:
1. Полацк
2. Кракаў
3. Рым
4. Гусава
5. Вільня

А5. Назавіце імёны асоб, з якімі звязана ўзнікненне беларускага вершаскладання:
1. Васіль Цяпінскі
2. Мікола Гусоўскі
3. Сімяон Полацкі
4. Андрэй Рымша
5. Канстанцін Вераніцын

А6. З гісторыяй напісання паэмы М. Гусоўскага "Песня пра зубра" звязаны наступныя асобы:
1. Эразм Цёлк (Вітэліус)
2. Бона Сфорца
3. Жыгімонт Стары
4. Леў Х Медычы
5. Вітаўт

А7. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":
1. класіцызм, сацыялагізм, рэалізм
2. навела, байка, балада
3. "Казкі жыцця", "Песні-жальбы", "Курган"
4. "Міласэрнасць плахі", "Дарога, закалыханая жытам", "Пошукі будучыні"
5. В.І. Дунін-Марцінкевіч, Андрэй Макаёнак, Анатоль Вярцінскі

А8. Знайдзіце памылковыя азначэнні наступных літаратуразнаўчых тэрмінаў:
1. Кампазіцыя – уся складаная будова твора, уключаючы ўнутраную арганізацыю і знешняе афармленне.
2. Дактыль – трохскладовая стапа з націскам на другім складзе.
3. Байка – лірычны верш павучальнага зместу.
4. Пенталогія – мастацкі твор, які складаецца з пяці самастойных твораў, аб'яднаных аднымі героямі і звязаных сюжэтна.
5. Іронія – скрытая, схаваная насмешка.

А9. Падкрэсліце прозвішчы пісьменнікаў, якія з'яўляюцца псеўданімамі:
1. П. Броўка
2. А. Мрый
3. І. Пташнікаў
4. Я. Брыль
5. А. Жук

А10. Падкрэсліце імёны літаратурных герояў, якія маюць прататыпаў:
1. дзядзька Антось

2. Нявада
3. Параска
4. Янка Тукала
5. Сцепаніда Багацька

А11. Укажыце літаратурныя аб'яднанні беларускіх пісьменнікаў 20–30-х гг. ХХ ст.:
1. "Полымя"
2. РАПП
3. "Маладняк"
4. "Мілавіца"
5. "Узвышша"

А12. Вызначце героя камедыі К. Крапівы "Хто смяецца апошнім", з якім звязаны сэнс назвы твора:
1. Чарнавус
2. Левановіч
3. Вера
4. Туляга
5. Зёлкін

Вызначце адпаведнасць, даставіўшы лічбу з левага слупка да слоў з правага:

А13.

| | |
|---|---|
| 1. "Мужыцкая праўда" | В.І. Дунін-Марцінкевіч |
| 2. "Махальнік Іваноў" | Я. Купала |
| 3. "Курган" | П. Броўка |
| 4. "Пахне чабор" | К. Каліноўскі |
| 5. "Зацюканы апостал" | А. Макаёнак |
| | К. Крапіва |

А14.

| | |
|---|---|
| 1. М. Гарэцкі | публіцыстычнасць |
| 2. І. Мележ | паказ жыцця вёскі ў гады калектывізацыі |
| 3. Цётка | біяграфічнасць |
| 4. К. Чорны | псіхалагізм прозы |
| 5. В. Быкаў | перавага ваеннай тэмы |
| | адлюстраванне падзей першай сусветнай вайны |

А15.

| | |
|---|---|
| 1. "Песні-жальбы" | М. Танк |
| 2. "Матчын дар" | У. Караткевіч |
| 3. "Мая Ііяда" | А. Гарун |
| 4. "Хрэст на свабоду" | Я. Колас |
| 5. "На этапах" | Т. Бураўкін |
| | Цётка |

А16.

| | |
|---|---|
| 1. палясоўшчык Тарас | "На ростанях" |
| 2. Вольга Андросава | "Дзве душы" |
| 3. Даніла Загорскі | "Пошукі будучыні" |
| 4. Густаў Шрэдэр | "Хто смяецца апошнім" |

5. МікітаТуляга — "Каласы пад сярпом тваім"
"Тарас на Парнасе"

А17. Суанясіце гады жыцця з імёнамі творцаў:

| | |
|---|---|
| 1. 1110–1173 | П. Багрым |
| 2. 1930–1984 | П. Панчанка |
| 3. 1876–1916 | Е. Полацкая |
| 4. 1917–1995 | У. Караткевіч |
| 5. 1812–1891 | Цётка |
| | М. Танк |

А18. Падкрэсліце праблемы, якія ўздымае Я. Колас у трылогіі "На ростанях":
1. сэнсу жыцця
2. кахання і сямейнага шчасця
3. вайны і міру
4. улады зямлі над чалавекам
5. абавязку інтэлігенцыі перад народам

А19. З прыведзенага спісу выберыце дакументальна-мастацкія творы:
1. "У вайны не жаночае аблічча"
2. "На імперыялістычнай вайне"
3. "Я з вогненнай вёскі"
4. "Жоўты пясочак"
5. "Злая зорка"

А20. Укажыце імя пісьменніцы, аўтара кнігі "Споведзь":
1. Яўгенія Янішчыц
2. Ларыса Геніюш
3. Цётка
4. Канстанцыя Буйло
5. Вольга Іпатава

А21. Я. Купале не належаць наступныя творы:
1. "Яна і я"
2. "Безназоўнае"
3. "Рыбакова хата"
4. "Люцыян Таполя"
5. "Голас сэрца"

А22. Суаднясіце цытату з назвай твора:

| | |
|---|---|
| 1."Як тая рабіна, цвіла ў гэтае лета Ганна. Яшчэ, здаецца, учора была гарэза, падлетак, а вось ужо ў самай добрай пары дзяўчына..." | Прадмова да зборніка Ф. Багушэвіча "Дудка беларуская" |
| 2. "Я люблю гэтыя прасторы, люблю неаглядна-ружовыя далі іх, поўныя жыцця, малюнкавасці, разнастайнасці тонаў зямлі і неба..." | "Новая зямля" |
| 3. Цягнуўся гожаю падковай<br>Стары высокі лес цяністы,<br>Тут верх асіны кругалісты<br>Сплятаўся з хвоямі, з дубамі... | "Людзі на балоце" |
| 4. "Гаворка і ёсць адзенне душы народа". | "Курган" |

5. Паміж пустак-балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,
Удзірванелы курган векавечны...

"На ростанях"

A23. "Палескую хроніку" І. Мележа складаюць творы:

1. "Людзі на балоце"
2. "У палескай глушы"
3. "Подых навальніцы"
4. "У глыбі Палесся"
5. "Завеі, снежань"

A24. Які твор беларускай літаратуры пачынаецца наступнымі словамі:

– А, гэта ты, бабка! Ну, прысядзь, пагаворым трохі!

– Я пастаю... У вас так ціха, я думала, што вы ўжо спіцё, а вы ўсё з гэтай кніжкай...

1. "Людзі на балоце"
2. "На ростанях"
3. "Ціхая плынь"
4. "Запіскі Самсона Самасуя"
5. "Вязьмо"

A25. Пазнайце героя (гераіню) :

1. "Ён наогул быў схільны да развагі, не любіў вельмі адкрываць сваю душу, асабліва калі ў ёй варушыліся думкі, невясёлыя і нядобрыя".

2. "Сама яна даволі рослая, і ранняя праца выраўняла яе, твар абветрыўся, рукі папрутчэлі і паходка стала цвёрдай."

3. "Ён узяў лыжку, зачэрпнуў з чыгуна баршчу і тхаранымі вачыма павеў па ўсіх, хто сядзеў".

4. Невыдумная світка – убор на плячах,
Барада, як снег белы, – такая,
Незвычайны агонь у задумных вачах,
На каленях ляглі гуслі-баі.

5. "Я надзвычайна горды тым, што маю мужыцкі твар і асабліва нос у форме бульбы. У залежнасці ад гэтага і розум мой выразна мужыцкі".

Волечка Нявада
Васіль
Халімон Глушак
Гусляр
Самсон Самасуй
Яўхім

B1. Назавіце твор, герой якога

1. праводзіў калектывізацыю ў Сіўцы і Сівалапах ...............................................
2. пашкадаваў лыжку мёду для хворага дзіцяці ...................................................
3. пісаў навуковы даклад Гарлахвацкаму .............................................................
4. вёў дзённік у перапынках паміж баямі...............................................................
5. "прибыл в околицу для расследования уголовного дела о побоях, нанесенных Тихоном Протосовицким Ивану Тюхаю-Липскому…" .....................................

B2. Вызначце тэму і ўкажыце аўтара наступных вершаў:

1. "Сінія касачы"...........................................................................................................
2. "Мая Бесядзь"..........................................................................................................

3. "Гора"..........................................................................................................
4. "Слуцкія ткачыхі" ..........................................................................................
5. "Ты пакліч мяне. Пазаві..." .............................................................................

В3. Да іншамоўных літаратуразнаўчых тэрмінаў падбярыце беларускамоўныя адпаведнікі:
1. эпітэт......................................................................................................
2. акмеізм....................................................................................................
3. ода..........................................................................................................
4. міф.........................................................................................................
5. метанімія.................................................................................................

В4. На месцы пропуску запішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які
1. нарадзіўся ў Таліне ў 1917 годзе ..................................................................
2. пахаваны ў Ялце ...........................................................................................
3. выдаў зборнік "Казкі жыцця" .......................................................................
4. называецца беларускім Дастаеўскім ...............................................................
5. распрацоўваў тэму Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры ....

В5. Дапоўніце сказы:
1. Задума паэмы "Новая зямля" ў Я. Коласа ўзнікла ў час знаходжання.........
2. Крыўду роду Луцэвічаў Я. Купала вынес у творы ........................................
3. Сапраўднае імя Андрэя Мрыя .........................................................................
4. Тэма калектывізацыі раскрываецца ў творах. ..................................................
5. Майстрам мастацкай дэталі з'яўляецца ...........................................................

**АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 3**

А1. 1, 3, 4
А2. 3, 4, 5
А3. 2, 3
А4. 2, 3
А5. 3, 4
А6. 1, 2, 4
А7. 1. сацыялагізм
2. навела
3. "Курган"
4. "Пошукі будучыні"
5. Анатоль Вярцінскі
А8. 2, 3
А9. 2
А10. 1, 3, 4
А11. 1, 2, 4, 5
А12. 1, 3, 5
А13. 1. "Мужыцкая праўда" – К. Каліноўскі
2. "Махальнік Іваноў" – К. Крапіва
3. "Курган" – Я. Купала
4. "Пахне чабор" – П. Броўка
5. "Зацюканы апостал" – А. Макаёнак

А14. 1. М. Гарэцкі – біяграфічнасць, адлюстраванне падзей першай сусветнай вайны
2. І. Мележ – паказ жыцця вёскі ў гады калектывізацыі
3. Цётка – публіцыстычнасць
4. К. Чорны – псіхалагізм прозы
5. В. Быкаў – перавага ваеннай тэмы

А15. 1. "Песні-жальбы" – Я. Колас
2. "Матчын дар" – А. Гарун
3. "Мая Іліяда" – У. Караткевіч
4. "Хрэст на свабоду" – Цётка
5. "На этапах" – М. Танк

А16. 1. палясоўшчык Тарас – "Тарас на Парнасе"
2. Вольга Андросава – "На ростанях"
3. Даніла Загорскі – "Каласы пад сярпом тваім"
4. Густаў Шрэдэр – "Пошукі будучыні"
5. Мікіта Туляга – "Хто смяецца апошнім"

А17. 1. Е. Полацкая
2. У. Караткевіч
3. Цётка
4. П. Панчанка
5. П. Багрым

А18. 1, 2, 5

А19. 1, 2, 3

А20. 2

А21. 3, 4, 5

А22. 1. "Людзі на балоце"
2. "На ростанях"
3. "Новая зямля"
4. Прадмова да зборніка Ф. Багушэвіча "Дудка беларуская"
5. "Курган"

А23. 1, 3, 5

А24. 2

А25. 1. Васіль
2. Волечка Нявада
3. Халімон Глушак
4. Гусляр
5. Самсон Самасуй

В1. 1. "Вязьмо"
2. "Людзі на балоце"
3. "Хто смяецца апошнім"
4. Лявон Задума, "На імперыялістычнай вайне"
5. "Пінская шляхта"

В2. 1. тэма вайны, П. Панчанка
2. тэма паэта і паэзіі, А. Куляшоў
3. тэма сацыяльнай няроўнасці, Ф. Багушэвіч
4. тэма паднявольнай працы, мастацтва, М. Багдановіч
5. тэма кахання, Я. Янішчыц

В3. 1. мастацкае азначэнне
2. вяршыня
3. песня
4. паданне
5. перайменаванне

В4. 1. П. Панчанка

2. М. Багдановіч
3. Я. Колас
4. К. Чорны
5. В. Быкаў

В5. 1. у Мінскім астрозе
2. "Раскіданае гняздо"
3. Андрэй Антонавіч Шашалевіч
4. М. Зарэцкага "Вязьмо", І. Мележа "Палеская хроніка", В. Быкава "Знак бяды"
5. Я. Брыль

## ТЭСТ 4

А1. Першай кананізаванай жанчынай была:
1. Соф'я Гальшанская
2. Бона Сфорца
3. Ефрасіння Полацкая
4. Анастасія Слуцкая
5. Барбара Радзівіл

А2. Творчую спадчыну Кірылы Тураўскага складаюць:
1. 8 слоў-казанняў
2. 2 каноны
3. малітвы-споведзі
4. "Энеіда"
5. "Прытча аб чалавечай душы і целе"

А3. У аснову "Слова пра паход Ігаравы" пакладзена такая падзея, як
1. паход Ноўгарад-Северскага князя Ігара на полаўцаў у 1184–1185 гг.
2. смерць Рагвалода
3. бітва на Нямізе ў 1067 г.
4. наступленне Усяслава Чарадзея на Пскоў у 1065 г.
5. Грунвальдская бітва

А4. Назавіце летапісныя помнікі Сярэднявечча:
1. "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх"
2. "Аповесць мінулых гадоў"
3. Смаленскі летапіс
4. "Хроніка Быхаўца"
5. Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г.

А5. Прадстаўнікамі палемічнай літаратуры XIV–XVII ст. з'яўляюцца:
1. Афанасій Філіповіч
2. Мялецій Сматрыцкі
3. Леў Сапега
4. Сымон Будны
5. Лаўрэнцій Зізаній

А6. Размясціце творы паводле часу іх напісання:
1. "Гапон"

2. "Энеіда" Вергілія
3. "Тарас на Парнасе"
4. "Тутэйшыя"
5. "Бандароўна"

А7. Падкрэсліце ў ніжэйпрыведзеным спісе імёны антычных багоў – герояў паэмы "Энеіда навыварат":

Эней, Юнона, Венера, Зефір, Геркулес, Юпітэр, Дыдона, Сатурн, Марс

А8. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":

1. барока, класіцызм, ода
2. камедыя, балада, драма
3. "Паўлінка", "Жалейка", "Раскіданае гняздо"
4. М. Гусоўскі, Ф. Скарына, А. Міцкевіч
5. "Вянок", "Пінская шляхта", "Матчын дар"

А9. Знайдзіце недакладныя азначэнні:

1. Харэй – двухскладовая стапа з націскам на другім складзе.
2. Байка – лірычны верш сатырычнага зместу.
3. Ідэя – тое, пра што гаворыцца ў творы.
4. Рэфрэн – радок ці некалькі радкоў, якія паўтараюцца ў вершы.
5. Лірычны герой – асоба, ад імя якой ідзе размова ў лірычным творы.

А10. Падкрэсліце прозвішчы пісьменнікаў, якія з'яўляюцца псеўданімамі:

1. А. Гарун
2. К. Крапіва
3. К. Чорны
4. Л. Геніюш
5. А. Макаёнак

А11. Падкрэсліце імёны літаратурных герояў, якія маюць прататыпаў:

1. Кручкоў
2. Апейка
3. Андрэй Лабановіч
4. Гукан
5. Антон Яраш

А12. Каму з герояў "Палескай хронікі" належаць словы: "Уся сіла чалавека ў зямлі, і сіла ўся, і радасць. Няма зямлі – няма, лічы, і чалавека"?

1. Халімон
2. Васіль
3. Міканор
4. Яўхім
5. Апейка

Аб'яднайце адной і той жа лічбай адпаведныя з'явы:

А13.

| | |
|---|---|
| 1. "Зайграй, зайграй, хлопча малы… " | В.І. Дунін-Марцінкевіч |
| 2. "Свіцязянка" | М. Гусоўскі |
| 3. "Ідылія" (або "Сялянка") | Я. Колас |

4. "Песня пра зубра" — К. Вераніцын
5. "Тарас на Парнасе" — А. Міцкевіч
П. Багрым

A14.

1. І. Шамякін — сучаснасць праблематыкі
2. В. Быкаў — распрацоўка гістарычнай тэмы
3. У. Караткевіч — патрыятычная скіраванасць
4. Я. Лучына — паказ падзей Вялікай Айчыннай вайны
5. Ф. Багушэвіч — заснаванне крытычнага рэалізму
публіцыстычнасць

A15.

1. "Росквіт зямлі" — М.Танк
2. "Міласэрнасць плахі" — А. Куляшоў
3. "Шляхам жыцця" — М. Багдановіч
4. "Вянок" — Я. Купала
5. "Дарога, закалыханая жытам" — П. Панчанка
Р. Барадулін

A16. Суаднясіце гады жыцця з імёнамі творцаў:

1. 1490–1551 — А. Куляшоў
2. 1798–1855 — М. Гарэцкі
3. 1914–1978 — Ф. Скарына
4. 1470–1533 — М. Гусоўскі
5. 1893–1938 — А. Міцкевіч

A17. Устанавіце адпаведнасць аўтараў і крылатых выслоўяў:

1. Мой родны кут, як ты мне мілы! — П. Панчанка
2. Другі баран – ні "бэ", ні "мя",
А любіць гучнае імя. — М. Багдановіч
А. Куляшоў
3. Бывай, абуджаная сэрцам дарагая. — Я. Колас
4. Мова і ёсць адзежа душы. — Ф. Багушэвіч
5. Беларусь! Я – твой воін адданы і сын. — Я. Янішчыц

A18. Вызначце асноўныя праблемы рамана І. Шамякіна "Сэрца на далоні":

1. дэмакратызацыя грамадства
2. гістарычнай справядлівасці і праўды
3. выхавання моладзі
4. роля інтэлігенцыі ў жыцці грамадства
5. экалагічная

A19. Устанавіце адпаведнасць паміж апісаннем і імёнамі герояў, аб'яднаўшы іх адной лічбай:

1. "Яшчэ зусім маладая дзяўчынка. Год, як скончыла гімназію, круглатварая, жывая і быстрая. Фігурка яе мерная і складная. Цёмныя валасы падстрыжаны. Вочы бойкія і смелыя". — Вольга Андросава

2. Што ж, чалавек ён быў рахманы,
Гарэлкі ў губу ён не браў, — Зося Савіч

Затое ў ласцы быў у пана,
Яго пан дужа шанаваў.

3. "Хлопец хораша смяяўся. Белыя зубы вельмі ўпрыгожвалі аблічча. І ўсмешка была шчырая і чыстая. Вочы былі не зусім сіметрычныя."

4. "Маленькая жанчына, такая худая, што здавалася, пад коўдрай  пустата. Спакутаваны твар з яркімі прыкметамі яе хваробы".

5. "Маленькі, сухенькі, такі дробны ў параўнанні са сваёй шырокай, самай вялікай у вёсцы будынінай... востры позірк тхарыных вачэй".

палясоўшчык Тарас

Кастусь Каліноўскі

Халімон Глушак

A20. Падкрэсліце творы, якія не належаць В. Быкаву:

1. "Жоўты пясочак"
2. "На чорных лядах"
3. "Вазьму твой боль"
4. "Сотнікаў"
5. "Партызаны"

A21. Духоўным настаўнікам Мікіты Зноска быў:

1. Янка Здольнік
2. Спічыні
3. Гарошка
4. Наста Пабягунская
5. Заходні і Усходні вучоныя

A22. Суаднясіце цытату з твора з яго назвай:

1. Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

2. І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне...

3. Каб з чаго іншага скласці,
Дык ці было б яно шчасцем...

4. Вобразы мілыя роднага краю!
Смутак і  радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае,
Чым так прыкованы я?

5. Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў.

"Шчасце"

"Родныя вобразы"

"Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі"

"Герой"

"Ахвяра"

A23. Ганаровае званне народнага паэта маюць наступныя пісьменнікі:

1. М. Багдановіч
2. Я. Купала
3. У. Караткевіч
4. К. Крапіва
5. Я. Колас

А24. Падкрэсліце імёны пісьменнікаў-эмігрантаў:
1. Наталля Арсеннева
2. Масей Сяднёў
3. Ларыса Геніюш
4. Алесь Салавей
5. Леанід Галубовіч

А25. Укажыце імёны пісьменнікаў, якім належаць творы пра калектывізацыю:
1. М. Зарэцкі
2. Б. Мікуліч
3. І. Мележ
4. В. Быкаў
5. Я. Колас

В1. Назавіце твор, герой якога
1. ідзе на "Вялікі Сход, па Бацькаўшчыну"..........................................................
2. "што не замысліць, то ўсё зробіць"......................................................................
3. кахае Ядвісю.........................................................................................................
4. пайшоў вольнапісаным у царскую армію............................................................
5. выдатна іграе на скрыпцы і ўмее чуць гутарку прыроды..............................

В2. Вызначце тэму і аўтараў прапанаваных вершаў:
1. "Нявесце Каліноўскага" .........................................................................................
2. "Ты пакліч мяне. Пазаві..." ...................................................................................
3. "Мужык"...................................................................................................................
4. "Маладыя гады".......................................................................................................
5. "Над брацкай магілай"............................................................................................

В3. Да іншамоўных літаратуразнаўчых тэрмінаў падбярыце беларускамоўныя адпаведнікі:
1. сімвал .......................................................................................................................
2. лірыка.......................................................................................................................
3. кульмінацыя.............................................................................................................
4. рэфрэн ......................................................................................................................
5. дыялог.......................................................................................................................

В4. На месцы пропуску запішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які
1. з'яўляецца аўтарам першага сатырычнага рамана .........................................
2. дваццаць восем гадоў знаходзіўся ў ссылцы ...................................................
3. апошнія гады жыцця правёў за мяжой, але памёр на Радзіме .......................
4. збіраў матэрыял для "Камароўскай хронікі" ...................................................
5. пражыў няпоўных 26 год .......................................................................................

В5. Дапоўніце сказы:
1. Драматычнымі творамі Янкі Купалы з'яўляюцца ..........................................
2. "Слова пра паход Ігаравы" было напісана ў ...................................стагоддзі.
3. Паэму М. Гусоўскага "Песня пра зубра" перакладалі ....................................
4. Тэма чарнобыльскай трагедыі раскрыта ў творах ..........................................
5. В. Быкаў пачаў пісаць творы пра вайну, бо ......................................................

## АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 4

А1. 4
А2. 1, 2, 3, 5
А3. 1
А4. 1, 4, 5
А5. 1, 2, 5
А6. 2, 1, 3, 5, 4
А7. Эней, Юнона, Венера, Зефір, Нептун, Дыдона
А8. 1. ода
2. "Жалейка
3. балада
4. А. Міцкевіч
5. "Пінская шляхта"
А9. 1, 2, 3
А10. 1, 2, 3
А11. 2, 3
А12. 2
А13. 1. П. Багрым
2. А. Міцкевіч
3. В. Дунін-Марцінкевіч
4. М. Гусоўскі
5. К. Вераніцын
А14. 1. сучаснасць праблематыкі
2. паказ падзей Вялікай Айчыннай вайны
3. распрацоўка гістарычнай тэмы
4. патрыятычная скіраванасць
5. заснаванне крытычнага рэалізму
А15. 1. А. Куляшоў
2. Р. Барадулін
3. Я. Купала
4. М. Багдановіч
5. М. Танк
А16. 1. Ф. Скарына
2. А. Міцкевіч
3. А. Куляшоў
4. М. Гусоўскі
5. М. Гарэцкі
А17. 1. Я. Колас
2. К. Крапіва
3. А. Куляшоў
4. Ф. Багушэвіч
5. П. Панчанка
А18. 1, 2, 3, 4
А19. 1. Вольга Андросава
2. палясоўшчык Тарас
3. Кастусь Каліноўскі
4. Зося Савіч
5. Халімон Глушак
А20. 3, 5
А21. 2
А22. 1. "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі"

2. "Герой"
3. "Шчасце"
4. "Родныя вобразы"
5. "Ахвяра"

А23. 2, 4, 5

А24. 1, 2, 4,

А25. 1, 3, 4

В1. 1. Сымон Зяблік
2. дзядзька Антось
3. Андрэй Лабановіч
4. Лявон Задума
5. Сымон-музыка

В2. 1. адданасці Радзіме, У. Караткевіч
2. тэма кахання, Я. Янішчыц
3. жыцця народа, Ф. Багушэвіч
4. сэнсу жыцця, М. Багдановіч
5. тэма Вялікай Айчыннай вайны, А. Куляшоў

В3. 1. знак
2. музычны інструмент
3. вяршыня
4. паўтор
5. размова

В4. 1. А. Мрый
2. У. Дубоўка
3. В. Быкаў
4. М. Гарэцкі
5. М. Багдановіч

В5. 1. "Паўлінка", "Раскіданае гняздо", "Тутэйшыя"
2. XII ст.
3. Я. Семяжон, У. Шатон
4. "Злая зорка", "Чорная быль", "Львы" і інш.
5. хацеў расказаць праўду аб ёй

## ТЭСТ 5

А1. Пазначце, хто з пералічаных князёў не з'яўляецца ўдзельнікам паходу Ігара ("Слова пра паход Ігаравы"):
1. Святаслаў Рыльскі
2. Уладзімір Манамах
3. Уладзімір Пуціўльскі
4. Усевалад Курскі
5. Усяслаў Чарадзей

А2. Падкрэсліце імёны асветнікаў Полацкай зямлі:
1. Клімент Смаляціч
2. Ефрасіння Полацкая
3. Кірыла Тураўскі
4. Іаан Златавуст
5. Рагвалод

А3. Назавіце характэрныя рысы эпохі Адраджэння:
1. развіццё навукі, тэхнікі і культуры
2. узмацненне антыфеадальнай і рэлігійнай барацьбы
3. зараджэнне кнігадрукавання
4. развіццё капіталізму
5. зварот да антычнай культуры

А4. У паэме М. Гусоўскага "Песня пра зубра" згадваюцца імёны князёў ВКЛ:
1. Жыгімонт Стары (Сігізмунд)
2. Вітаўт
3. Віцень
4. Гедымін
5. Кейстут

А5. Прадстаўнікамі эпохі Адраджэння з'яўляюцца:
1. Сімяон Полацкі
2. Паўлюк Багрым
3. Мікола Гусоўскі
4. Ян Вісліцкі
5. Вікенцій Равінскі

А6. Размясціце творы ў храналагічнай паслядоўнасці паводле часу іх напісання:
1. "Хто смяецца апошнім"
2. "Пошукі будучыні"
3. "Запіскі Самсона Самасуя"
4. "Сотнікаў"
5. "Людзі на балоце"

А7. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":
1. іронія, сарказм, навела
2. сімвал, анафара, эпітэт
3. дактыль, ямб, харэй
4. класіцызм, рамантызм, інверсія
5. санет, балада, трыялет

А8. Знайдзіце правільныя меркаванні:
1. Паэма М. Гусоўскага "Песня пра зубра" напісана на лацінскай мове.
2. Аўтарам копіі крыжа Е. Полацкай з'яўляецца Мікалай Кузьміч.
3. Сюжэт – гэта змест твора.
4. Е. Полацкая памерла ў 1173 г. у Іерусаліме.
5. За раманы "Палескай хронікі" І. Мележу прысуджана Ленінская прэмія ў 1971 г.

А9. Падкрэсліце імёны герояў рамана М. Зарэцкага "Вязьмо":
1. Сымон Карызна
2. Сымон Ракуцька
3. Сымон Зяблік
4. Галілей
5. Пацяроб

А10. Выдаўцамі газет "Наша доля" і "Наша ніва" былі:

1. Іван Тукеркес
2. Іван Луцкевіч
3. Ядвігін Ш.
4. Юзаф Іваноўскі
5. Антон Луцкевіч

Вызначце адпаведнасць літаратурных з'яў, даставіўшы лічбу з левага слупка да слоў з правага:

А11.

| | |
|---|---|
| 1. Усяслаў Чарадзей | "Песня пра зубра" |
| 2. М. Гусоўскі | развіццё вершаскладання |
| 3. С. Полацкі | на беларускай мове |
| 4. "Пісьмо з-пад шыбеніцы" | К. Каліноўскі |
| 5. "Прамова Мялешкі" | сатырычная літаратура XVI ст. |
| | Сафійскі сабор |

А12.

| | |
|---|---|
| 1. М. Багдановіч | Орша |
| 2. У. Караткевіч | Нізок |
| 3. К. Крапіва | Мінск |
| 4. П. Панчанка | Талін |
| 5. М. Танк | Пількаўшчына |

А13.

| | |
|---|---|
| 1. "Сівая легенда" | У. Караткевіч |
| 2. "Безназоўнае" | Я. Колас |
| 3. "Малады дубок" | П. Панчанка |
| 4. "Паэма сораму і гневу" | І. Мележ |
| 5. "Мінскі напрамак" | Я. Купала |

А14.

| | |
|---|---|
| 1. Густаў Шрэдэр | "Пошукі будучыні" |
| 2. Наста Пабягунская | "Вязьмо" |
| 3. Пацяроб | "Людзі на балоце" |
| 4. Ахрэм Грыбок | "Каласы пад сярпом тваім" |
| 5. Кроер | "Тутэйшыя" |

А15. Абазначце творы, у якіх раскрываецца праблема "чалавек і зямля":

1. "Трэцяе пакаленне"
2. "Запіскі Самсона Самасуя"
3. "Вязьмо"
4. "Людзі на балоце"
5. "Знак бяды"

А16. Абазначце артыкулы, якія не належаць пяру К. Крапівы:

1. "Канфлікт – аснова п'есы"
2. "Жыццё і смерць У. Галубка"
3. "Думкі пра сатыру"
4. "Беларускі санет 20–30-х гадоў"
5. "Аб сатырычнай камедыі"

A17. Падкрэсліце творы, якія належаць В. Быкаву:

1. "Воўчая яма"
2. "Жоўты пясочак"
3. "Я з вогненнай вёскі"
4. "Свае і чужынцы"
5. "На Чорных лядах"

A18. Афарызм "Усё пакінуць след павінна" належыць:

1. М. Танку
2. П. Панчанку
3. П. Броўку
4. А. Куляшову
5. Н. Гілевічу

A19. Суаднясіце цытату з творам:

1. Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.
2. Толькі з роднага дому,
Толькі ў роднай дуброве –
Як не дрэвам, хоць кветкай
Прарасту для жывых.
3. Не ён, а другія ішлі ў атаку,
Гранаты кідалі ў бліндажы,
Калолі фрыцаў, палілі танкі
І сцяг перамогі ўзнімалі ранкам
На заваёваным рубяжы.
4. Чым з табою піць, гуляці,
Ночкі каратаці,
Лепш навекі косці парыць
У зямельцы-маці.
5. Дзе мой край! Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.

"Я хаджу, закаханы"

"Беларуская песня"

"Мужык"

"Бандароўна"

"Герой"

A20. Пазнайце героя па партрэце: *"Хлопец хораша смяяўся. Белыя зубы вельмі ўпрыгожвалі аблічча. І ўсмешка была шчырая і чыстая. Вочы былі не зусім сіметрычныя: адно трохі вышэй за другое"*.

1. Лабановіч
2. Васіль
3. Каліноўскі
4. Загорскі
5. Зносак

A21. Пазнайце твор па заключных словах:

– Куды пойдзеш? Па што?
– На Вялікі Сход! Па Бацькаўшчыну!!!

1. "Паўлінка"
2. "Раскіданае гняздо"
3. "Тутэйшыя"
4. "Канец дружбы"
5. "Трыбунал"

A22. Укажыце мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю К. Крапівы:
1. Цімкавічы
2. Нізок
3. Узда
4. Бягомль
5. Загор'е

A23. Падкрэсліце прозвішчы пісьменнікаў – ураджэнцаў Заходняй Беларусі:
1. Я. Брыль
2. І. Мележ
3. М. Танк
4. М. Гарэцкі
5. І. Шамякін

A24. Аўтабіяграфічную аснову маюць наступныя творы:
1. "На ростанях"
2. "Сэрца на далоні"
3. "Каласы пад сярпом тваім"
4. "Людзі на болоце"
5. "На імперыялістычнай вайне"

A25. Падкрэсліце творы, якія адносяцца да трагікамедыі:
1. "Тутэйшыя"
2. "Зацюканы апостал"
3. "Пінская шляхта"
4. "Хто смяецца апошнім"
5. "Мілы чалавек"

B1. Успомніце твор, герой якога
1. сядзіць у турме з А. Лабановічам.......................................................................
2. б'ецца за зямлю, што ля цагельні .......................................................................
3. імкнецца стаць калежскім асэсарам ...................................................................
4. мае адну на ўвесь раён малатарню .....................................................................
5. гіне са словамі: "Нячысцікі! Гадаўцы!.. Але пачакайце! Мой Федзька прыйдзе. Сын мой прыйдзе. Ён вам пакажа"... ...............................................................................

B2. Вызначце аўтара і тэму кожнага з прапанаваных вершаў:
1. "Пагоня".............................................................................................................
2. "Мая Бесядзь".....................................................................................................
3. "Не цурайся".......................................................................................................
4. "Мала сказаць: ненавіджу"..................................................................................
5. "Ave Maria".........................................................................................................

B3. Запішыце назвы родаў літаратуры .....................................................................

В4. На месцы пропуску запішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які
1. нарадзіўся ў Вязынцы ..............................................................................
2. з'яўляецца аўтарам кнігі "Споведзь" ..............................................................
3. вольнапісаным пайшоў на службу ў царскую армію ....................................
4. ў 1942 г. пад Растовам быў цяжка паранены ....................................................
5. быў памылкова "пахаваны" ў гады Вялікай Айчыннай вайны .....................

В5. Дапішыце сказы:
1. Ганна Чарнушка выйшла замуж за Яўхіма, бо ................................................
2. Варты лепшага ў свеце кахання .......................................................................
3. Андрэй Лабановіч пакінуў Цельшына, таму што ..........................................
4. Усе героі рамана "Пошукі будучыні"..................................................................
5. У раман У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" уведзены вобразы такіх гістарычных асоб, як ..............................................................................................

**АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 5**

А1. 2, 5
А2. 2
А3. 1, 3, 5
А4. 1, 2
А5. 3, 4
А6. 3, 1, 2, 5, 4
А7. 1. навела
2. анафара
3. дактыль
4. інверсія
5. балада
А8. 1, 2, 4, 5
А9. 1, 4, 5
А10. 1, 2, 5
А11. 1. Сафійскі сабор
2. "Песня пра зубра"
3. развіццё вершаскладання на беларускай мове
4. К. Каліноўскі
5. сатырычная літаратура XVI ст.
А12. 1. Мінск
2. Орша
3. Нізок
4. Талін
5. Пількаўшчына
А13. 1. У. Караткевіч
2. Я. Купала
3. Я. Колас
4. П. Панчанка
5. І. Мележ
А14. 1. "Пошукі будучыні"
2. "Тутэйшыя"

3. "Вязьмо"
4. "Людзі на балоце"
5. "Каласы пад сярпом тваім"

A15. 1, 4
A16. 1, 3, 5
A17. 1, 2, 5
A18. 3
A19.1. "Мужык"
2. "Я хаджу, закаханы"
3. "Герой"
4. "Бандароўна"
5. "Беларуская песня"

A20. 3
A21. 2
A22. 2, 3
A23. 1, 3, 4
A24. 1, 4, 5
A25. 1, 2
B1. 1. Аляксандр Галубовіч, "На ростанях"
2. Васіль, "Людзі на балоце"
3. Мікіта Зносак, "Тутэйшыя"
4. Халімон Глушак, "Людзі на болоце"
5. Пятрок Багацька, "Знак бяды"

B2. 1. тэма радзімы, М. Багдановіч
2. паэта і паэзіі, А. Куляшоў
3. сацыяльнай няроўнасці, Ф. Багушэвіч
4. барацьбы за праўду, чалавечнасць, П. Панчанка
5. тэма маладосці, сэнсу жыцця, М. Танк

B3. эпас, лірыка, драма
B4. 1. Я. Купала
2. Л. Геніюш
3. М. Гарэцкі
4. І. Мележ
5. В. Быкаў

B5. 1. "сцерпіцца-злюбіцца"; "не дзеўка чалавека выбірае, а чалавек дзеўку"; ведала, што не такая Васілю патрэбна нявеста
2. Алесь Загорскі
3. паехала Ядвіся, "найпрыгажэйшая кветка Палесся"
4. шукаюць будучыню, якую адабрала вайна
5. К. Каліноўскі, А. Валуеў, Мураўёў, А. Кіркор, С. Манюшка і інш.

## ТЭСТ 6

A1. Творамі антычнай літаратуры з'яўляюцца:
1. "Іліяда"
2. "Адысея"
3. "Энеіда"
4. "Энеіда навыварат"
5. "Боская камедыя"

A2. У "Слове пра паход Ігаравы"ёсць вобразы князёў:
1. Святаслаў
2. Усевалад
3. Уладзімір Манамах
4. Уладзімір Пуціўльскі
5. Ігар

A3. Сярод нашых славутых продкаў былі кананізаваны:
1. Усяслаў Чарадзей
2. Рагвалод
3. Кірыла Тураўскі
4. Ефрасіння Полацкая
5. Клімент Смаляціч

A4. Уласнабеларускія летапісы – гэта
1. "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх"
2. "Аповесць мінулых гадоў"
3." Смаленскі летапіс"
4. "Хроніка Быхаўца"
5. Беларускі ІІ летапіс

A5. У стварэнні Статута Вялікага княства Літоўскага прымалі ўдзел:
1. Фёдар Еўлашэўскі
2. Афанасій Філіповіч
3. Леў Сапега
4. Астафій Валовіч
5. Лаўрэнцій Крышкоўскі

A6. Францыск Скарына выдаваў кнігі Святога пісання ў
1. Рыме
2. Вільні
3. Нясвіжы
4. Кракаве
5. Падуі

A7. У паэме М. Гусоўскага "Песня пра зубра" знайшлі выяўленне наступныя тэмы:
1. Айчыны
2. вайны і міру
3. мастака і ўлады
4. кахання
5. экалагічная

A8. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":
1. С. Будны, М. Гусоўскі, Я. Чачот
2. жыціе, абразок, апокрыф
3. барока, навела, нарыс
4. "Катэхізіс", "Пан Тадэвуш", "Дзяды"
5. Ф. Скарына, К. Вераніцын, В. Равінскі

A9. Укажыце правільныя меркаванні:

1. Тэтралогія – гэта мастацкі твор, які складаецца з трох самастойных твораў, аб'яднаных адзінай задумай аўтара.

2. В.І. Дунін-Марцінкевіч увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры як заснавальнік драматургічнага роду.

3. Ян Чачот нарадзіўся ў маёнтку Мурагі на Віцебшчыне.

4. Янка Лучына з'яўляецца аўтарам зборнікаў "Вязанка", "Паэзія".

5. Уладзіслаў Сыракомля – аўтар паэмы "Стэла Фарнарына".

А10. Падкрэсліце мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю І. Мележа:
1. Пінкавічы
2. Глінішчы
3. Бугуруслан
4. Мінск
5. Масква

А11. Аўтарам аднаго верша з'яўляецца:
1. П. Багрым
2. Я. Чачот
3. Ф. Савіч
4. К. Каліноўскі
5. У. Сыракомля

А12. Прататыпаў маюць наступныя героі "Палескай хронікі":
1. Ганна
2. Васіль
3. Апейка
4. Міканор
5. Башлыкоў

А13. Абазначце мастацкія прыёмы, якімі карыстаецца А. Мрый пры абмалёўцы "шапялёўскай інтэлігенцыі":
1. аўтарская характарыстыка
2. унутраны маналог
3. гратэск
4. іронія
5. шаржыраванне

Вызначце адпаведнасць літаратурных з'яў, даставіўшы лічбу з левага слупка да слоў з правага:

А14.

| | |
|---|---|
| 1. "Скрыпка беларуская" | А. Куляшоў |
| 2. "Дудка беларуская" | Ф. Багушэвіч |
| 3. "Новая кніга" | М. Танк |
| 4. "Мой хлеб надзённы" | У. Караткевіч |
| 5. "Быў. Ёсць. Буду" | Цётка |
| | Р. Барадулін |

А15.

| | |
|---|---|
| 1. Ф. Багушэвіч | сентыменталізм |
| 2. В. Дунін-Марцінкевіч | рамантызм |
| 3. А. Пысін | сатырычнае выкрыццё |
| 4. Я. Купала | гістарызм |
| 5. А. Куляшоў | публіцыстычнасць |
| | філасафічнасць |

A16.

| | |
|---|---|
| 1. Орша | К. Чорны |
| 2. Зарэчча | М. Танк |
| 3. Цімкавічы | Я. Чачот |
| 4. Пількаўшчына | М. Зарэцкі |
| 5. Малюшычы | У. Караткевіч |
| | А. Мрый |

A17.

| | |
|---|---|
| 1. Зося Савіч | "Запіскі Самсона Самасуя" |
| 2. Лін | "Вязьмо" |
| 3. Вера Засуліч | "Сэрца на далоні" |
| 4. Мікіта Зносак | "Тутэйшыя" |
| 5. Адольф Быкоўскі | "Прымакі" |
| | "Паўлінка" |

A18. Суаднясіце гады жыцця творцаў з і іх імёнамі:

| | |
|---|---|
| 1. 1900–1933 | П. Броўка |
| 2. 1869–1922 | Я. Янішчыц |
| 3. 1948–1988 | У. Жылка |
| 4. 1905–1980 | Ядвігін Ш. |
| 5. 1896–1937 | М. Чарот |
| | Н. Гілевіч |

A19. Укажыце зборнікі і творы перыяду Вялікай Айчыннай вайны :
1. "Голас сэрца" П. Броўкі
2. "Проба агнём" К. Крапівы
3. "Вялікае сэрца" К. Чорнага
4. "Астап" М. Лынькова
5. "Суд у лесе" Я. Коласа

A20. Вызначце, у чым бачыў свой асноўны абавязак Андрэй Лабановіч-настаўнік:
1. вучыць дзяцей і дарослых
2. распаўсюджваць рэвалюцыйныя ідэі
3. абудзіць крытычную думку ў вучняў
4. палепшыць жыццё народа
5. з павагай адносіцца да палешукоў

A21. Ганна згадзілася выйсці замуж за Яўхіма, бо
1. "сцерпіцца-злюбіцца"
2. хацела стаць багачкай
3. хацела палепшыць матэрыяльнае становішча сваёй сям'і
4. пакахала Яўхіма
5. "не дзеўка чалавека выбірае, а чалавек дзеўку"

A22. Аўтар прыведзеных ніжэй радкоў – герой рамана У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім".

| | |
|---|---|
| Ёсць паданне вякоў, што разбурыць калісь | 1. Алесь Загорскі |
| Вавілонскую вежу Адам... | 2. Віктар Каліноўскі |
| І няўмольна сальюцца мовы зямлі | 3. Чорны Война |

У адну, няродную нам.
І мая безвыходна пойдзе ў змрок,
У атрутны, як вечнасць, цень,
Трапяткая і сіняя, як васілёк,
Гарачая, як прамень.

4. Яраш Раўбіч
5. Кастусь Каліноўскі

А23. Падкрэсліце назвы твораў, у якіх выяўлена іх асноўная праблема:
1. "Тутэйшыя"
2. "Подых навальніцы"
3. "Пошукі будучыні"
4. "Пінская шляхта"
5. "Знак бяды"

А24. Укажыце біяграфічны твор М. Гарэцкага:
1. "Літоўскі хутарок"
2. "На імперыялістычнай вайне"
3. "Дзве душы"
4. "Роднае карэнне"
5. "Ціхая плынь"

А25. Устанавіце адпаведнасць цытат і твораў, з якіх яны ўзяты:

1. "Прырода – найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас".
2. "Свет не стаіць на месцы, у ім ёсць стаячая вада і плынь. Першая гіне і робіцца балотам, другая – з крыніцы робіцца ручаінай, ракою..."
3. "Зямля, зямля – бяскрайнія разлівы гнілой твані ў нізінах, зыбучыя пясчаныя хвалі на ўзгорках! Яркая, шчодрая і залатая з выгляду, зманлівая, няласкавая да дзяцей сваіх красуня... "
4. О родны край! О край пакуты,
Нягодай цяжкаю прыкуты!
Калі ж ты збудзеш тое гора,
Што і цяпер там, як учора,
Як і даўней, цябе знішчае
І горкім смуткам авявае?
5. Так мілаванне к шчасцю след адчыне,
А мілаванне – над царамі цар,–
І будзеш век маёй ты гаспадыняй,
А я твой вечна буду гаспадар.

"Яна і я"
"Новая зямля"
"Каласы пад сярпом тваім"
"На ростанях"
"Людзі на балоце"

В1. Запішыце назву твора, адзін з герояў якога
1. займаў пасаду культпрацаўніка ў раёне........................................................
2. вярнуўся з войска і стаў камсамольцам-актывістам.......................................
3. лічыў, што сілай можна сагнаць сялян у калгас за лічаныя дні.......................
4. піша петыцыю да пана Скірмунта..................................................................
5. трапіў на Парнас.........................................................................................

В2. Вызначце тэму і ўкажыце аўтара прапанаваных вершаў:
1. "Гравюры Скарыны"..........................................................................................
2. "Кожны з нас прыпасае Радзімы куток"............................................................
3. "Маладыя гады"...............................................................................................
4. "Вера беларуса"...............................................................................................
5. "Паўлюк Багрым"..............................................................................................

В3. Раскрыйце змест паняццяў:
1. Эпітэт .................................................................................................................
2. Шарж .................................................................................................................
3. Камедыя ..............................................................................................................
4. Байка ..................................................................................................................
5. Санет ..................................................................................................................

В4. На месцы пропуску ўпішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які
1. закончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю ў 1902 г...............................
2. пісаў паэзію, прозу і драматургію .......................................................................
3. напісаў раман "Вялікая княгіня"..........................................................................
4. нарадзіўся на станцыі Лясная Баранавіцкага раёна .........................................
5. закончыў Саматэвіцкую сямігодку .....................................................................

В5. Дапоўніце сказы:
1. Слова "Катэхізіс" абазначае ...............................................................................
2. Паэма "Сымон-музыка" мела ......................................................... рэдакцыі.
3. Званне народнага пісьменніка К. Крапіве прысвоена ў .................................
4. Сапраўднае імя М. Зарэцкага ............................................................................
5. Паэма М. Гусоўскага выдадзена ў ..................... годзе ў горадзе ..................

**АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 6**

А1. 1, 2, 3
А2. 1, 2, 4, 5
А3. 3, 4
А4. 1, 4, 5
А5. 3, 4
А6. 2, 4
А7. 1, 2, 3
А8. 1. Ян Чачот
2. абразок
3. барока
4. "Катэхізіс"
5. Ф. Скарына
А9. 2, 4, 5
А10. 2, 3, 4, 5
А11. 1, 3, 4
А12. 3, 4
А13. 1, 3, 4, 5
А14. 1. Цётка
2. Ф. Багушэвіч
3. А. Куляшоў

4. М. Танк
5. У. Караткевіч
А15. 1. рэалізм
2. сентыменталізм
3. сатырычнае выкрыццё
4. рамантызм
5. філасафічнасць
А16. 1. У. Караткевіч
2. М. Зарэцкі
3. К. Чорны
4. М. Танк
5. Я. Чачот
А17. 1. "Сэрца на далоні"
2. "Запіскі Самсона Самасуя"
3. "Вязьмо"
4. "Тутэйшыя"
5. "Паўлінка"
А18. 1. У. Жылка
2. Ядвігін Ш.
3. Я. Янішчыц
4. П. Броўка
5. М. Чарот
А19. 2, 3, 4, 5
А20. 1, 3
А21. 1, 3, 5
А22. 1
А23. 1, 3, 4
А24. 2
А25. 1. "На ростанях"
2. "Каласы пад сярпом тваім"
3. "Людзі на балоце
4. "Новая зямля"
5. "Яна і я"
В1. 1. "Запіскі Самсона Самасуя"
2. "Людзі на балоце"
3. "Вязьмо"
4. "На ростанях"
5. "Тарас на Парнасе"
В2. 1. М. Танк, тэма значэння і ролі Ф. Скарыны
2. П. Панчанка, тэма Вялікай Айчыннай вайны
3. М. Багдановіч, тэма сэнсу жыцця чалавека, каштоўнасці жыцця
4. Цётка, тэма вызвалення народа ад сацыяльнага гнёту
5. У. Караткевіч, таленавітасць П. Багрыма, роздум аб радзіме
В3. 1. мастацкае азначэнне, якое служыць для поўнага апісання прадмета, з'явы
2. вобраз або твор, у якім завострана-карыкатурна малюецца тая ці іншая асоба
3. жанр драматургіі, у якім камічна, у смешным выглядзе паказваюцца розныя з'явы жыцця з мэтай іх крытыкі
4. вершаваны твор сатырычнага зместу з алегарычным сюжэтам і мараллю
5. форма лірычнага верша з чатырнаццаці радкоў
В4. 1. Я. Колас
2. У. Караткевіч
3. І. Шамякін

4. У. Галубок
5. А. Куляшоў

В5. 1. вуснае настаўленне
2. тры рэдакцыі
3. 1956 г.
4. Касянкоў
5. 1523 г., г. Кракаў

## ТЭСТ 7

А1. Назавіце помнікі літаратуры і мастацтва, звязаныя з імем Ефрасінні Полацкай:
1. Сафійскі сабор
2. крыж Лазара Богшы
3. "Аповесць мінулых гадоў"
4. "След ваўкалака"
5. Спаская царква

А2. Зараджэнне вершаскладання на беларускай мове звязана з імёнамі:
1. Е. Полацкай
2. К. Тураўскага
3. С. Буднага
4. А. Рымшы
5. Яна Казіміра Пашкевіча

А3. Пазначце творы, у аснову якіх пакладзены міфы Старажытнай Грэцыі:
1. "Уваскрэсенне Хрыстова"
2. "Энеіда навыварат"
3. "Тарас на Парнасе"
4. "Прыкаваны Праметэй"
5. "Пруская вайна"

А4. Размясціце творы ў храналагічнай паслядоўнасці паводле часу іх напісання, пастаўце адпаведны нумар:
"Запіскі Самсона Самасуя"
"Новая зямля"
"Тарас на Парнасе"
"Песня пра зубра"
"Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях"

А5. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":
1. жыціе, казка, легенда
2. І. Пацей, П. Скарга, К. Астрожскі
3. "Прамова Мялешкі", "Ліст да Абуховіча", "Хроніка Быхаўца"
4. "Я з вогненнай вёскі", "У вайны не жаночае аблічча", "Сотнікаў"
5. "Тутэйшыя", "Шляхам жыцця", "Гусляр"

А6. Укажыце няправільнае меркаванне:
1. Міф – гэта вымысел, казка, з дапамогай якой думка чалавека імкнулася не толькі растлумачыць незразумелыя з'явы жыцця, але і падначаліць іх сабе.

2. Жыціе – апісанне жыцця чалавека, які шмат зрабіў дзеля краіны.
3. Паэма-эпапея – вершаваны сюжэтны твор, у якім раскрываецца жыццё народа ў складаныя часы гісторыі.
4. Нарыс – жанр эпічнай літаратуры, які амаль не дапускае вымыслу.
5. Хаджэнне – падарожжа ў святую зямлю.

А7. Адметнасцю стылю В. Быкава з'яўляецца:
1. рамантычная ўзнесласць
2. шырокае выкарыстанне метафар
3. суровы рэалізм
4. праблема выбару
5. глыбокі псіхалагізм

А8. Устанавіце адпаведнасць дат жыцця наступным пісьменнікам:

| | |
|---|---|
| 1. 1838–1864 | А. Гарун |
| 2. 1887–1920 | М. Зарэцкі |
| 3. 1901–1937 | Я. Лучына |
| 4. 1881–1897 | К. Каліноўскі |
| 5. 1807–1884 | В. Дунін-Марцінкевіч |

А9. Абазначце творы, у якіх падзеі падаюцца ў 2-х планах:
1. "Пошукі будучыні"
2. "Вазьму твой боль"
3. "Знак бяды"
4. "Дзве душы"
5. "Мінскі напрамак"

Вызначце адпаведнасць літаратурных з'яў шляхам пастаноўкі лічбаў левага слупка да слоў з правага:

А10.

| | |
|---|---|
| 1. "Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя" | У. Караткевіч |
| 2. "Цень Катула" | М. Багдановіч |
| 3. "Купідон" | М. Танк |
| 4. "Гамер" | Р. Барадулін |
| 5. "Хамуціус" | А. Куляшоў |
| | А. Разанаў |

А11.

| | |
|---|---|
| 1. В.І. Дунін-Марцінкевіч | аўтабіяграфічнасць |
| 2. М. Танк | сентыменталізм |
| 3. Я. Брыль | выкарыстанне верлібра |
| 4. У. Караткевіч | лірызацыя прозы |
| 5. В. Быкаў | гістарычная тэма |
| | экзістэнцыялізм (свабода выбару) |

А12.

| | |
|---|---|
| 1. "Казкі жыцця" | П. Панчанка |
| 2. "Матчына душа" | К. Крапіва |
| 3. "Упэўненасць" | Я. Янішчыц |

4. "Крапіва" — В. Іпатава
5. "Прадслава" — Я. Колас
У. Караткевіч

A13.

| | |
|---|---|
| 1. Кастусь Лукашэвіч | "Сэрца на далоні" |
| 2. Наста Пабягунская | "Пошукі будучыні" |
| 3. Янка Тукала | "Тутэйшыя" |
| 4. Кірыла Шыковіч | "Знак бяды" |
| 5. Антон Недасека | "На ростанях" |
| | "Роднае карэнне" |

B1. Дапішыце, з якімі пісьменніцкімі імёнамі і творамі вы звязваеце:
1. тэму калектывізацыі .............................................................................
2. экалагічную (тэма чарнобыльскай трагедыі)...........................................
3. тэму жыцця сучаснай вёскі.......................................................................
4. тэму Вялікай Айчыннай вайны................................................................
5. гістарычную тэму.....................................................................................

B2. Дапішыце крылатыя выслоўі і ўкажыце аўтараў, з твораў якіх яны ўзяты:
1. Гуслям, княжа, ..........................................................................................
2. Жыццё даецца, каб....................................................................................
3. Без чалавечнасці не будзе .........................................................................
4. Трэба дома бываць ...................................................................................
5. Не пакідайце ж мовы.................................................................................

B3. Укажыце аўтараў і назвы твораў, урыўкі з якіх прыведзены ніжэй:
1. Я ўпарты, не кіну пачатае справы,
Каменне крышу, разграбаю пяскі,
Пад кпіны аматараў лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі...................................................................
2. Войны! Злачынная справа –
Вайна выклікае гнеў мой, і слёзы, і боль...................................................
3. Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў..........................................................................
4. Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць ..........................................................................
5. Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос....................................................................

B4. Пазнайце героя па апісанні і запішыце яго імя:
1. А вочы шэры, невялічкі
Глядзяць прыветна, як сунічкі,
То смех, то хітрасць з іх бліскае,
То дабрата, але якая?!...............................................................................

2. З худым аскетычным тварам, глыбокімі вачамі і густымі сівымі брывамі, ён нагадваў у профіль ястраба, які выглядаў здабычу, здавалася, на самым дне ракі...........................................................................................................

3. Быў хлопец крэпкі, моцна зросся з зямлёю і жыццём, любіў гэта жыццё, на парозе якога ён стаяў..........................................................................

4. Тварык – як сонейка яснае, шчочкі – як малінкі красныя, губкі – моў тыя каралі, а як засмяецца срэбным галасочкам ды вышчырыць зубкі – то, здаецца, бачыш два пэрловыя шнурочкі..............................................................................

5. Шырокі і загарэлы ледзь не да гарчычнага адцення, ён увесь быў папаласаваны і зрэзаны страшнымі шрамамі, якія толькі нейкім дзівам не закранулі носа і вачэй. Павуцінне ляжала цэлымі жмутамі і падала на плечы конніка.......................

B5. Да іншамоўных літаратуразнаўчых тэрмінаў падбярыце беларускамоўныя адпаведнікі:

1. кампіляцыя...............................................................................................
2. пілігрым...................................................................................................
3. бурлеск....................................................................................................
4. панегірык................................................................................................
5. мадэрнізм................................................................................................

B6. Дапішыце паняцце, якое адпавядае дадзенаму азначэнню:

1. Агульныя прынцыпы падыходу пісьменніка ці пісьменнікаў да мастацкага адлюстравання рэчаіснасці ..............................................................................

2. Умоўнае абазначэнне з'явы праз вобраз, які нечым нагадвае гэту з'яву ..........................................................................................................................

3. Разнавіднасць метаніміі, у аснове якой ляжыць узаемазамена такіх з'яў, якія знаходзяцца ў колькасных суадносінах ..........................................................

4. Разнавіднасць твораў старажытнай літаратуры рэлігійна-легендарнага характару, якія праследаваліся царквой за тое, што ў іх дапускаліся разыходжанні з афіцыйным веравучэннем ...................................................................................

5. Невялікі верш сатырычнага характару ..........................................................

B7. На месцы пропуску запішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які

1. прысвяціў сваю ліру рэвалюцыі 1905–1907 гг.................................................
2. стаў песняром Беларусі, будучы адарваны ад яе з маленства.........................
3. актыўна працаваў у жанры верлібра..............................................................
4. з'яўляецца прадаўжальнікам традыцый М.В. Гогаля.......................................
5. зрабіў першы пераклад "Слова пра паход Ігаравы" на беларускую мову......................................................................................................................

B8. Вызначце, героем якога твора напісаны гэтыя радкі:

1. "Вас ужо няма тут. Вы паехалі, разам з сабою забралі ўсё, што звязвала мяне з гэтым месцам, з гэтым кутком. Цяпер ён не жыве для мяне, бо ўсё тое, што прыдавала яму прыгоства і нейкую чароўнасць, забралі вы".........................

2. "Дарагі наш таварыш! Пішам мы табе, твае баявыя батарэйныя таварышы, з пазіцыі, з Усходняй Прусіі, што мы, дзякуй богу, жывы і здаровы, чаго і табе жадаем..."

3. "Дружа! Я скончыў сваю мачаху-гімназію. Еду паступаць у альма-матэр, у Маскву. Хацелася б убачыцца з табою, толькі ведаю: немагчыма"....................

4. "А яшчэ трэба паведаміць табе, даражэнькі сынок, што ў новай нашай хаце жыць мы дужа баімся..."..............................................................................

B9. Вызначце памер і характар рыфмы паводле фанічнага і кампазіцыйнага значэння ў прапанаваным творы:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...

Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

....................................................................................................................................

B10. Дапішыце сказы:

1. Літаратура беларускай эміграцыі прадстаўлена імёнамі ...............................
2. Званне народнага паэта І. Мележу прысвоілі ў ...............................................
3. Першы зборнік А. Куляшова называецца ........................................................
4. Творам В. Быкава, у якім ён "здрадзіў" ваеннай тэме, з'яўляецца.................
5. Радкі "Бо як ёсць у народа такія – не загіне да веку народ" належаць..........
....................................................................................................................................

B11. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў жанры рамана працаваў.........................

C1. Прыгадайце ўзоры беларускай інтымнай лірыкі. Ахарактарызуйце адзін з іх.

## АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 7

A1. 2, 5
A2. 4, 5
A3. 2, 4
A4. 4, 5, 3, 2, 1
A5. 1. жыціе
2. К. Астрожскі
3. "Хроніка Быхаўца"
4. "Сотнікаў"
5. "Тутэйшыя"
A6. 2, 5
A7. 3, 4, 5
A8. 1. К. Каліноўскі
2. Я. Лучына
3. М. Зарэцкі
4. А. Гарун
5. В. Дунін-Марцінкевіч
A9. 1, 2, 3
A10. 1. М. Багдановіч
2. Р. Барадулін
3. М. Багдановіч
4. М. Танк
5. А. Куляшоў
A11. 1. сентыменталізм
2. выкарыстанне верлібра
3. лірызацыя прозы
4. гістарычная тэма
5. экзістэнцыялізм
A12. 1. Я. Колас
2. У. Караткевіч
3. П. Панчанка
4. К. Крапіва
5. В. Іпатава

A13. 1. "Пошукі будучыні"
2. "Тутэйшыя"
3. "На ростанях"
4. "Сэрца на далоні"
5. "Знак бяды"

B1. 1. М. Зарэцкі "Вязьмо"; І. Мележ "Людзі на балоце"; К. Чорны "Трэцяе пакаленне"
2. І. Шамякін "Злая зорка"; С. Законнікаў "Чорная быль"; В. Быкаў "Ваўчыная яма"
3. А. Жук "Паляванне на Апошняга жураўля"; А. Кудравец "Нявестка"; І. Пташнікаў "Мсціжы"
4. В. Быкаў "Сотнікаў", "Воўчая зграя", "Абеліск" і інш.; І. Шамякін "Вазьму твой боль", "Глыбокая плынь", "Сэрца на далоні" і інш.; І. Пташнікаў "Тартак" і інш., І. Мележ "Мінскі напрамак" і інш.
5. У. Караткевіч "Каласы пад сярпом тваім"; В. Іпатава "Прадслава"; Л. Дайнека "Меч князя Вячкі", "Жалезныя жалуды"; У. Арлоў "Дзень, калі ўпала страла", "Час чумы"; А. Лойка "Як агонь, як вада"

B2. 1. Гуслям, княжа, не пішуць законаў; Я. Купала
2. Жыццё даецца, каб жыццё тварыць; А. Вярцінскі
3. Без чалавечнасці не будзе вечнасці; П. Панчанка
4. Трэба дома бываць часцей, трэба дома бываць не госцем; Р. Барадулін
5. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі; Ф. Багушэвіч

B3. 1. "Мая Бесядзь" А. Куляшова
2. "Песня пра зубра" М. Гусоўскага
3. "Ахвяра" Ф. Багушэвіча
4. "Мора" Цёткі
5. Трыялет М. Багдановіча

B4. 1. дзядзька Антось
2. Гукан
3. А. Лабановіч
4. Марыська ("Пінская шляхта")
5. Чорны Война

B5. 1. крадзёж, аграбленне
2. падарожнік
3. жарт
4. хвалебны
5. сучасны

B6. 1. мастацкі метад
2. сімвал
3. сінехдаха
4. апокрыф
5. эпіграма

B7. 1. Цётка
2. М. Багдановіч
3. М. Танк
4. В. Дунін-Марцінкевіч
5. Я. Купала

B8. 1. Андрэем Лабановічам, "На ростанях"
2. Лявонам Задумай, "На імперыялістычнай вайне"
3. Кастусём Каліноўскім, "Каласы пад сярпом тваім"
4. бацькам Архіпа Лінкевіча, "Роднае карэнне"

B9. чатырохстопны дактыль, рыфма дакладная, перакрыжаваная

B10. 1. М. Сяднёў, Н. Арсеннева, А. Салавей
2. 1972 г.

3. "Росквіт зямлі"
4. "Знак бяды"
5. У. Караткевічу

В11. К. Чорны

## ТЭСТ 8

А1.Укажыце мясціны, звязаныя з імем святой Ефрасінні:
1. Візантыя
2. Іерусалім
3. Кіева-Пячэрская лаўра (Кіеў)
4. Полацк
5. Ноўгарад

А2. Усходнеславянскі літаратурны помнік "Слова пра паход Ігаравы" знойдзены ў
1. XIII ст.
2. XVII ст.
3. XVIII ст.
4. XIX ст.
5. XX ст.

А3. Выберыце правільную паслядоўнасць змены аднаго літаратурнага напрамку другім:
1. сентыменталізм, рамантызм, класіцызм, рэалізм, мадэрнізм
2. мадэрнізм, рамантызм, рэалізм, сентыменталізм, класіцызм
3. класіцызм, сентыменталізм, рамантызм, рэалізм, мадэрнізм
4. рэалізм, класіцызм, сентыменталізм, рамантызм, мадэрнізм
5. рамантызм, класіцызм, сентыменталізм, рэалізм, мадэрнізм

А4. Узгадайце лацінамоўныя творы:
1. "Пруская вайна"
2. "Энеіда навыварат"
3. "Энеіда"
4. "Песня пра зубра"
5. "Уваскрэсенне Хрыстова"

А5. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":
1. летапіс, жыціе, казанне
2. Ф. Скарына, М. Гусоўскі, Ф. Багушэвіч
3. "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", "Храналогія", "Полска квітнет лацінаю"
4. "Вянок", "Матчын дар", "Сымон-музыка"
5. "Новая зямля", "Чорная быль", "Вялікая княгіня"

А6. Памылковым з'яўляецца наступнае меркаванне:

1. Скрыпторыі – майстэрні па перапісванні кніг, заснавальніцай якіх была Е. Полацкая.

2. Хамуціус – падпольная клічка Ф. Савіча.

3. Пасквіль – твор, у якім узводзіцца паклёп на якога-небудзь чалавека або грамадскую з'яву.

4. "Пан Тадэвуш" – паэма Я. Баршчэўскага.
5. Катэхізіс – вуснае настаўленне.

А7. Укажыце, што было характэрна для ўсіх прадстаўнікоў роду Загорскіх:
1. знешняе хараство, фізічная сіла, прыродны розум
2. патрыятызм, мужнасць, годнасць, гордасць, сумленнасць, гуманізм
3. пагарда да нікчэмнасці, халуйства і халуёў, беспрынцыповасці
4. уладалюбства, імкненне любой цаной заняць высокія пасады ў губерні і нават у Расійскай імперыі
5. клопат пра такое выхаванне дзяцей, каб яны памножылі духоўныя набыткі роду

А8. Суаднясіце гады жыцця з імёнамі пісьменнікаў :

| | |
|---|---|
| 1. нар. 1917 | У. Сыракомля |
| 2. 1912–1995 | Ф. Багушэвіч |
| 3. 1840–1900 | Я. Брыль |
| 4. 1823–1862 | А. Мрый |
| 5. 1893–1943 | М. Танк |

А9. Адзначце, у чым заключаецца наватарства М. Багдановіча:
1. заснаваў філасофскую лірыку
2. прывіў беларускай паэзіі новыя класічныя формы верша
3. збіраў вусную народную творчасць
4. увёў пагадовыя агляды літаратуры
5. выкарыстоўваў біблейскія сюжэты

Вызначце адпаведнасць літаратурных з'яў шляхам пастаноўкі лічбаў з левага слупка да слоў правага:

А10.

| | |
|---|---|
| 1. "Свіцязянка" | Я. Баршчэўскі |
| 2. "Трэнас" | А. Міцкевіч |
| 3. "Катэхізіс" | С. Будны |
| 4. "Гапон" | М. Сматрыцкі |
| 5. "Новая і славутая перамога | М. Гусоўскі |
| над туркамі ў ліпені месяцы" | В. Дунін-Марцінкевіч |

А11.

| | |
|---|---|
| 1. Я. Купала | псіхалагізм |
| 2. К. Чорны | рамантызм |
| 3. П. Панчанка | рэалізм |
| 4. І. Мележ | грамадзянскасць |
| 5. Ф. Багушэвіч | публіцыстычнасць |
| | двухпланавасць паказу жыцця |

А12 .

| | |
|---|---|
| 1. "Дудка беларуская" | К. Крапіва |
| 2. "Крапіва" | Я. Купала |
| 3. "Жалейка" | Ф. Багушэвіч |
| 4. "Вячэрнія ветразі" | У. Караткевіч |
| 5. "Песні-жальбы" | П. Броўка |
| | Я. Колас |

A13.

| | |
|---|---|
| 1. Лявон Задума | "Хто смяецца апошнім" |
| 2. Янка Здольнік | "На ростанях" |
| 3. Захар Лемеш | "Тутэйшыя" |
| 4. Сымон Ракуцька | "Пошукі будучыні" |
| 5. Мікіта Туляга | "На імперыялістычнай вайне" |
| | "Людзі на балоце" |

В1. Назавіце твор, герой якога

1. сябруе з К. Каліноўскім..............................................................................

2. піша петыцыю да пана Скірмунта..............................................................

3. не бачыў сваіх дзяцей больш за дзесяць гадоў.............................................

4. пераканаўся, што змагацца з несправядлівасцю трэба не сілай, а розумам ......................................................................................................................

5. марыў пра сваю зямлю, але так і не набыў яе, памёр...................................

В2. Дапішыце крылатыя выслоўі і назавіце аўтараў твораў, з якіх яны ўзяты:

1. Няма таго, што .......................................................................................

2. Мова наша для нас...................................................................................

3. Ад прадзедаў спакон вякоў........................................................................

4. Забілі зайца, не забілі, але ........................................................................

5. Да славы прагныя, ды ..............................................................................

В3. Запішыце назвы твораў, урыўкі з якіх прыведзены ніжэй:

1. Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!...................................................................................

2. Я хаце абавязаны прапіскаю,
Калыскаю, падвешанай пад столь..................................................................

3. Ты пакліч мяне. Пазаві...
Там заблудзімся ў хмельных травах.................................................................

4. Мог бы славай грымець сярод годных паэтаў Еўропы,
Гвалтам спуталі ногі, трымалі ўвесь час за руку..............................................

5. З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц.................................................................

В4. Пазнайце героя па апісанні і запішыце яго імя:

1. "...высокі, уважысты, з свежым мужным (праўда, карпаносым) тварам. Статны, бялявы, з вельмі пухнымі вусамі..."..................................................

2. "Нізенькі, з сівымі кучаравымі валасамі дзядок у шырокім пільчаку зверху палатнянай вышыванай кашулі, у стопках..."..................................................

3. "Сама яна даволі рослая, і ранняя праца выраўняла яе, твар абветрыўся, рукі папругчэлі і паходка стала цвёрдай..."...................................................

4. "Апранута было ўсё лепшае для такога выпадку: не новыя, але чыстыя картовыя штаны, вымытая сацінавая кашуля, быў адзеты руды, даматканага сукна пінжак"...........................................................................................

В5. Да прыведзеных тэрмінаў падбярыце беларускамоўныя адпаведнікі:

1. камічнае......................................................................................................

2. ідэя..........................................................................................................

3. сарказм..........................................................................................................

4. трэнас..........................................................................................................

5. дэкаданс..........................................................................................................

В6. Дапішыце паняцце, якое адпавядае дадзенаму азначэнню:

1. Мастацкі метад і напрамак у літаратуры, што ўзнік у эпоху крызісу феадалізму, узоры якога прасякнуты ідэямі патрыятызму і грамадзянскасці ................

2. Форма лірычнага верша, які складаецца з васьмі радкоў з рыфмоўкай *абааабаб* ..........................................................................................................

3. Жанр, які не дапускае фантазіі і вымыслу ..........................................................

4. Род літаратуры, у творах якога раскрываюцца чалавечыя пачуцці ................

5. Аўтарская заўвага ў тэксце драматычнага твора..............................................

В7. На месцы пропуску ўпішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які (якія)

1. з'яўляецца аўтарам адзінага верша..................................................................

2. выдаў зборнік паэзіі з прысвячэннем: "Гэтую першую кніжку думак і песьняў матцэ сваей прысвячаю"..........................................................................

3. з'яўляецца аўтарам зборніка "Ад родных ніў"...................................................

4. дзіцячыя гады пражыў у Адэсе..........................................................................

5. з'яўляецца аўтарам першага ў беларускай літаратуры сатырычнага рамана ..........................................................................................................

В8. Успомніце, хто з літаратурных герояў бачыў такія сны:

1. "Зірнуў хлопец на хату, бачыць – падлога каля пячы расступаецца, і выходзіць, падымаецца труна аграмадная з пакрывамі чорнымі. То падымаецца, то схаваецца. Валасы дыбам у хлопца становяцца. Хоча ён падняць галаву – не падымаецца"..........................................................................................................

2. "Здаецца, прыйшоў да нас у хату нехта такі, незвычайны – на галаве месяц, у руцэ сонца трымае; прыйшоў ён і кажа: «Годзе вам тут сядзець, годзе гібець, хадзіце за мной!» Сабраліся мы ўсе ды пайшлі гэтак за ім, кінуўшы і хату, і гаспадарку ўсю сваю. Ішлі мы гэтак, ажно бачым – нейкае кругом нас страшэннае балота: гадзіны, вужакі, сліўні так і капашаць, як у гаршку якім"..................

3. "Пад жорнамі ў істопцы здаўна была шырокая пацукова нара, з якой цяпер высоўвалася нейкае дзікае стварэнне з клыкастаю, нібы ў дзіка, зяпай; шпурляў у яго венікам, затым пароў доўгім кійком, ды марна: пацук хаваўся, каб затым вылезці зноў..."..........................................................................................................

4. "Снілася ёй, быццам яна караскаецца на нейкую гару і валачэ за сабой цяжкі груз, які цягне яе ўніз, а пад нагамі слізка, як на гразкай дарозе..."..............

В9. Вызначце памер і характар рыфмы паводле фанічнага і кампазіцыйнага значэння:

Простае шчасце людское,  
Так, як і наша з табою,  
Пэўна, складаецца з солі,  
З хлеба, сабранага ў полі,  
З поту, дарожнага пылу,  
З роднага небасхілу...

..........................................................................................................

B10. Дапішыце сказы:

1. Аўтарам адзінага прыжыццёвага зборніка з'яўляецца....................................
2. Сапраўднае імя А. Мрыя ..........................................................................
3. Першымі празаічнымі творамі І. Мележа з'яўляюцца ...................................
4. Сябрамі А. Куляшова былі паэты-маладнякоўцы...............................................
5. Аўтарам першага рамана пра Чарнобыль з'яўляецца........................................

B11. Пазнайце герояў І. Мележа па асаблівасцях маўлення:

1. "...да гаворак ахвотнік невялікі, гаворыць так, нібы воз сена падымае..."...
..........................................................................................................................
2. "...забівала сваёй гаворкай астатніх, якія нямелі ад патоку дасціпных прымавак і жартаў..."......................................................................................................
3. "...словы, як грошы, выпускаў неахвотна, і слухалі яго так уважліва, як бы ён даваў гэтыя лічаныя грошы".......................................................................................
4. "...неахвочы да пустой гаворкі; бывае, з яго слова не выцягнуць..."...................

C1. Якім чынам паўплывала "Энеіда" Вергілія на беларускую літаратуру XIX ст.

**АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 8**

A1. 2, 3, 4
A2. 3
A3. 3
A4. 1, 4
A5. 1. летапіс
2. Ф. Багушэвіч
3. "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх"
4. "Сымон-музыка"
5. "Вялікая княгіня"
A6. 2, 4
A7. 2, 3, 5
A8. 1. Я. Брыль
2. М. Танк
3. Ф. Багушэвіч
4. У. Сыракомля
5. А. Мрый
A9. 1, 2, 4, 5
A10. 1. А. Міцкевіч
2. М. Сматрыцкі
3. С. Будны
4. В. Дунін-Марцінкевіч
5. М. Гусоўскі
A11. 1. рамантызм
2. псіхалагізм, двухпланавасць паказу жыцця
3. грамадзянскасць, публіцыстычнасць
4. рэалізм, псіхалагізм
5. рэалізм
A12. 1. Ф. Багушэвіч
2. К. Крапіва
3. Я. Купала

4. У. Караткевіч
5. Я. Колас

A13. 1. "На імперыялістычнай вайне"
2. "Тутэйшыя"
3. "На ростанях"
4. "Пошукі будучыні"
5. "Хто смяецца апошнім"

B1. 1. "Вязьмо"
2. "На ростанях"
3. "Пошукі будучыні"
4. "Раскіданае гняздо"
5. "Новая зямля"

B2. 1. Няма таго, што раньш было. М. Багдановіч
2. Мова наша для нас святая, бо яна нам ад Бога даная. Ф. Багушэвіч
3. Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына. Я. Купала
4. Забілі зайца, не забілі, але, брат, гуку нарабілі. Я. Колас
5. Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах. К. Крапіва

B3. 1. "Родныя вобразы"
2. "Я хаце абавязаны прапіскаю"
3. "Ты пакліч мяне. Пазаві..."
4. "Паўлюк Багрым"
5. "Родная мова"

B4. 1. Самсон Самасуй
2. Іван Карпавіч Гаршчок
3. Волечка Нявада
4. Пятрок Багацька

B5. 1. смешны
2. паняцце, ідэал
3. здзек, насмешка
4. плач
5. заняпад

B6. 1. рамантызм
2. трыялет
3. нарыс
4. лірыка
5. рэмарка

B7. 1. П. Багрым, Савіч
2. А. Гарун
3. Л. Геніюш
4. Я. Брыль
5. А. Мрый

B8. 1. Архіп Лінкевіч ("Роднае карэнне")
2. Зоська ("Раскіданае гняздо")
3. Пятрок Багацька ("Знак бяды")
4. Сцепаніда Багацька ( "Знак бяды")

B9. трохстопны дактыль, рыфма недакладная, парная

B10. 1. М. Багдановіч
2. Антон Шашалевіч
3. "Сустрэча", "Апошняя аперацыя"
4. Ю. Таўбін, З. Астапенка
5. І. Шамякін

В11. 1. Пракоп
2. Сарока
3. Халімон Глушак
4. Васіль

## ТЭСТ 9

А1. Да літаратурных набыткаў Х– пач. ХІІІ ст. належаць творы:
1. "Боская камедыя" Дантэ
2. "Прыкаваны Праметэй" Эсхіла
3. "Іліяда", "Адэсея" Гамера
4. "Слова пра паход Ігаравы"
5. "Псалтыр", "Евангелле", "Апостал"

А2. Падкрэсліце назву летапіса, які лічыцца "першай гістарычнай энцыклапедыяй усходніх славян":
1. "Хроніка Быхаўца"
2. "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх"
3. "Аповесць мінулых гадоў"
4. Смаленскі летапіс
5. Беларускі І летапіс

А3. Творчую спадчыну Кірылы Тураўскага складаюць:
1. словы-казанні
2. прытчы
3. хаджэнні
4. жыціі
5. малітвы

А4. Апавяданне пра заснаванне Гедымінам Вільні ўвайшло ў такі летапіс, як
1. "Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх"
2. "Хроніка Быхаўца"
3. Смаленскі летапіс
4. "Аповесць мінулых гадоў"
5. Полацкі летапіс

А5. Класіцысты адносілі жанр камедыі да наступнага стылю:
1. высокі
2. сярэдні
3. нізкі
4. змешаны

А6. Укажыце, які твор не належыць М. Гусоўскаму:
1. "Песня пра зубра"
2. "Рыфмалагіён"
3. "Храналогія"
4. "Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы"
5. "Жыццё і подзвіг святога Гіяцынта"

А7. Прадстаўнікамі рэфармацыйнага руху на Беларусі з'яўляюцца:

1. Афанасій Філіповіч
2. Мялецій Сматрыцкі
3. Васіль Цяпінскі
4. Сымон Будны
5. Сімяон Полацкі

А8. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":

1. "Храналогія", "Эпіграма на герб Льва Сапегі", "Трэнас"
2. "Хроніка Быхаўца", "Ліст да Абуховіча", "Аповесць мінулых гадоў"
3. хаджэнні, жыціі, паэтычныя галашэнні
4. "Запіскі Самсона Самасуя", "На імперыялістычнай вайне", "Я з вогненнай вёскі"
5. "Мора", "Вера беларуса", "Гора"

А9. Укажыце правільнае меркаванне:

1. Стоўпнік – той, хто замуроўваўся ў манастырскай вежы і адмаўляўся ад свецкіх даброт.
2. Лоўчы – самы вопытны чалавек у паляўнічай дружыне.
3. Ян Баршчэўскі нарадзіўся ў маёнтку Малюшычы ў 1796 г.
4. Верш П. Багрыма "Зайграй, зайграй, хлопча малы" быў упершыню надрукаваны ў Лондане ў кнізе адваката Яцкоўскага "Гісторыя майго часу" ў 1854 годзе.
5. Спандэй – спалучэнне двух доўгіх складоў.

Вызначце адпаведнасць, даставіўшы лічбу з левага слупка да слоў правага:

А10.

| | |
|---|---|
| 1. "Вялікая княгіня" | В. Іпатава |
| 2. "Прадслава" | А. Лойка |
| 3. "Энеіда" | В. Дунін-Марцінкевіч |
| 4. "Ідылія" (або "Сялянка") | Вергілій |
| 5. "Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае" | І. Шамякін |
| | У. Арлоў |

А11.

| | |
|---|---|
| 1. У. Караткевіч | рэалізм |
| 2. Я. Колас | рамантызм |
| 3. Я. Брыль | псіхалагізм |
| 4. А. Міцкевіч | лірызацыя прозы |
| 5. І. Шамякін | двухпланавасць паказу жыцця |
| | біяграфічнасць |

А12.

| | |
|---|---|
| 1. "Скрыпка беларуская" | Я. Купала |
| 2. "Асцё" | У. Жылка |
| 3. "Мая Іліяда" | Цётка |
| 4. "Гусляр" | А. Гарун |
| 5. "Матчын дар" | К. Крапіва |
| | У. Караткевіч |

А13.

| | |
|---|---|
| 1. Архіп Лінкевіч | "Пошукі будучыні" |
| 2. Незнаёмы | "Хто смяецца апошнім" |

3. Левановіч — "Раскіданае гняздо"
4. Сымон Ракуцька — "Роднае карэнне"
5. Патап Каландзёнак — "Чорны замак Альшанскі"
"Знак бяды"

B1. Рысамі рэалізму не з'яўляюцца:
1. строгая захаванасць трыадзінства
2. канкрэтна-гістарычная тыпізацыя
3. паказ працэсу фарміравання чалавечага характару
4. наяўнасць герояў, якія валодаюць незвычайнай духоўнай і фізічнай сілай
5. наяўнасць фантазіі

B2. Дапішыце крылатыя выслоўі і ўкажыце іх аўтараў:
1. Другі баран – ні "бэ", ні "мя" ........................................................................
2. Мова для нас святая, бо ...................................................................................
3. Трэба дома бываць ..........................................................................................
4. Не скуеш толькі .................................................................................................
5. Мой родны кут! ..................................................................................................

B3. У якіх творах абазначаны наступныя праблемы?
1. Чалавек і зямля..................................................................................................
2. Мастака і мастацтва...........................................................................................
3. Інтэлігенцыя і яе роля ў жыцці народа.............................................................
4. Экалагічная (Чарнобыль)..................................................................................
5. Праблема пошукаў будучыні............................................................................

B4. Запішыце, урыўкі з якіх твораў прыведзены ніжэй:
1. Маладыя гады,
Маладыя жаданні!..................................................................................................
2. Недзе поруч ляжалі дарогі,
Кліч кахання ляцеў ад ніў,
Але ён не кахаў нікога,
Бо занадта Радзіму любіў.
3. Ільняная і жытнёвая, сялянская,
Баравая ў казачнай красе,
Старажытная, ты, самая славянская.................................................................
4. Той дзень прапаў і страчаны навекі,
Калі ты не зрабіў таго, што мог..........................................................................
5. ...і ён адказаў мне:
Прайсці праз вернасць......................................................................................

B5. Пазнайце героя па асаблівасцях маўлення і запішыце яго імя:
1. "Да гаворак ахвотнік невялікі, гаворыць так, нібы воз сена падымае. Тым, каму даводзіцца слухаць яго, хочацца дапамагчы чалавеку "...................................
2. "Часта цётка забівала сваёй гаворкай астатніх, якія нямелі ад патоку дасціпных прымавак і жартаў. Прымаўкі вязала яна лёгка, спрытна, без утомы ".............
3. "Не тое што на сходах, а і дзе-небудзь на прызбе гаварыць попусту не любіў; словы, як грошы, выпускаў неахвотна, і слухалі яго так уважліва, як бы ён даваў гэтыя лічаныя грошы "........................................................................

4. "Слухалі яго без цікавасці, дзе-нідзе пасмейваліся: ведалі – хлебам не кармі, а дай слова сказаць "....................................................................................................

5. "Ён і то аж дзіва гаваркі з ёй зрабіўся, другі, бывае, з яго слова не выцягне ...не ахвочы да пустой гаворкі "..........................................................................................

В6. Да іншамоўных слоў падбярыце сінонімы на беларускай мове:

1. аксюмаран.........................................................................................................
2. медытацыя.........................................................................................................
3. гімн...................................................................................................................
4. гумар.................................................................................................................
5. псеўданім...........................................................................................................

В7. На месцы пропуску ўпішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які

1. з'яўляецца заснавальнікам беларускай драматургіі .......................................
2. прайшоў шлях ад каморніка да навуковага супрацоўніка Інбелкульта ............
3. памёр па дарозе дадому ў 1943 г....................................................................
4. з'яўляецца аўтарам зборнікаў "Хрэст на свабоду", "Скрыпка беларуская"
5. прысвяціў дзесяць вершаў Ф. Скарыне .........................................................

В8. Укажыце творы, з якіх узяты згаданыя цытаты:

1. "Прырода – найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас".....................................................................................................................

2. "Я тут не для таго, каб дыгнуць нагой і сказаць: я тут праездам. Я тут нарадзіўся і мяркую тут памерці"...........................................................................

3. Я на тым вяселлі быў,  
Піва, мёд, гарэлку піў,  
У роце, здавалася, было,  
Аж па барадзе цякло..................................................................................

4. "Свет як бы перайначыўся адразу. Ён быў цяпер поўны цудаў і радасці, незвычайны свет!"..............................................................................................

5. "І вось яго пальцы, тоўстыя, але чулыя, абмацваюць сэрца. Удакладняюць дыягназ. Вось сэрца ляжыць на яго шырокай далоні. І б'ецца, б'ецца, нібы хоча вырвацца"..............................................................................................................

В9. Вызначце памер і характар рыфмы паводле фанічнага і кампазіцыйнага значэння:

Паміж пустак-балот беларускай зямлі,  
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай  
Дрэмле памятка дзен, што ў нябыт уцяклі,  
Удзірванелы курган векавечны.

..........................................................................................................................

В10. Дапішыце сказы:

1. Першымі беларускімі газетамі з'яўляюцца .....................................................
2. Янка Купала дэбютаваў у........годзе ў газеце ............. ...з вершам ...............
3. Аўтарам першага падручніка па гісторыі беларускай літаратуры з'яўляецца ..........................................................................................................
4. Жыццё і творчасць У. Караткевіча даследавалі ...............................................
5. Беларуска-польскімі паэтамі з'яўляюцца.........................................................

В11. Дапішыце гады жыцця:

1. В. Быкава..........................................................................................................
2. У. Караткевіча....................................................................................................
3. Я. Коласа............................................................................................................
4. М. Багдановіча...................................................................................................
5. К. Крапівы..........................................................................................................

С1. Прывядзіце прыклады твораў беларускай літаратуры з сімвалічнымі назвамі. Адну з іх растлумачце.

**АДКАЗ ДА ТЭСТА 9**

А1. 4, 5
А2. 3
А3. 1, 2, 5
А4. 1
А5. 3
А6. 2, 3
А7. 3, 4
А8. 1. "Трэнас"
2. "Ліст да Абуховіча"
3. паэтычныя галашэнні
4. "Запіскі Самсона Самасуя"
5. "Гора"
А9. 1, 2, 4, 5
А10. 1. І. Шамякін
2. В. Іпатава
3. Вергілій
4. В. Дунін-Марцінкевіч
5. А. Лойка
А11. 1. рамантызм
2. псіхалагізм, біяграфічнасць
3. лірызацыя прозы
4. рамантызм
5. двухпланавасць паказу жыцця
А12. 1. Цётка
2. К. Крапіва
3. У. Караткевіч
4. Я. Купала
5. А. Гарун
А13. 1. "Роднае карэнне"
2. "Раскіданае гняздо"
3. "Хто смяецца апошнім"
4. "Пошукі будучыні"
5. "Знак бяды"
В1. 1, 4, 5
В2. 1. ...а любіць гучнае імя. К. Крапіва
2. ...яна нам ад Бога даная. Ф. Багушэвіч
3. ...часцей, трэба дома бываць не госцем. Р. Барадулін
4. ...дум ланцугамі. Я. Купала
5. ... Як ты мне мілы! Я. Колас

В3. 1. "Новая зямля", "Людзі на балоце", "Апокрыф"
2. "Сымон-музыка", "Музыка", "Апавяданне аб іконніку і залатару" (М. Багдановіч)
3. "На ростанях"
4. "Злая зорка", "Чорная быль", "Сэрца на далоні"
5. "Пошукі будучыні"

В4. 1. "Маладыя гады"
2. "Нявесце Каліноўскага"
3. "Беларуская мова"
4. "Той дзень прапаў"
5. "Прайсці праз вернасць"

В5. 1. Пракоп
2. Сарока
3. Халімон Глушак
4. Руды
5. Васіль

В6. 1. дасціпна-недарэчнае
2. роздум
3. ухваленне
4. вільгаць
5. вымысел, імя

В7. 1. В. Дунін-Марцінкевіч
2. М. Гарэцкі
3. А. Мрый
4. Цётка
5. Л. Геніюш

В8. 1. "На ростанях"
2. "Каласы пад сярпом тваім"
3. "Гапон"
4. "Людзі на балоце"
5. "Сэрца на далоні"

В9. чатырохстопны анапест, перакрыжаваная, недакладная

В10. 1. "Наша доля", "Наша ніва"
2. у 1905 г. у газеце "Северо-Западный край" з вершам "Мужык"
3. М. Гарэцкі
4. А. Мальдзіс, А. Верабей
5. Я. Чачот, У. Сыракомля, Я. Баршчэўскі

В11. 1. 1924–2003
2. 1930–1984
3. 1882–1956
4. 1891–1917
5. 1896–1991

## ТЭСТ 10

А1. Укажыце летапіс, з якога пачаўся адлік часу для гарадоў: Менск, Бярэсце, Друцк, Орша.

1. Галіцка-Валынскі летапіс
2. Кіеўскі летапіс
3. Смаленскі летапіс
4. "Аповесць мінулых гадоў"
5. Полацкі летапіс

А2. Наяўнасць устойлівых эпітэтаў збліжае "Слова пра паход Ігаравы" з
1. ваеннай гістарычнай аповесцю
2. вуснай народнай творчасцю
3. летапісам
4. жыціем
5. гераічнай паэмай

А3. Падкрэсліце жанры літаратуры Старажытнай Русі (XI–XIII ст.):
1. апокрыф
2. жыціе
3. легенда
4. казка
5. летапіс

А4. Прадстаўнікамі эпохі Адраджэння з'яўляюцца:
1. Кірыла Тураўскі
2. Клімент Смаляціч
3. Пётр Скарга
4. Мікола Гусоўскі
5. Ян Вісліцкі

А5. Назавіце лацінамоўных беларускіх паэтаў XVI ст.:
1. Мікола Гусоўскі
2. Сымон Будны
3. Андрэй Рымша
4. Ян Вісліцкі
5. Афанасій Філіповіч

А6. Укажыце імя кіраўніка дзяржавы, якога ўхваляе М. Гусоўскі ў паэме "Песня пра зубра" як выдатнага кіраўніка дзяржавы:
1. Гедымін
2. Міндоўг
3. Жыгімонт Стары
4. Вітаўт
5. Усяслаў Чарадзей

А7. Назавіце паэтаў, жыццё і творчасць якіх прыпадае на XV–XVII ст.:
1. Андрэй Рымша
2. Адам Міцкевіч
3. Сімяон Полацкі
4. Вінцэсь Каратынскі
5. Ян Казімір Пашкевіч

А8. Успомніце факты, звязаныя з паэмай "Энеіда навыварат":
1. 1845 г., часопіс "Маяк"
2. "Энеіда" Вергілія
3. паміж 1842–1855 гг.
4. фарс-вадэвіль
5. Зефір

А9. Падкрэсліце вобразы, якія выкарыстаў Паўлюк Багрым у вершы "Зайграй, зайграй, хлопча малы...":

жалейка, скрыпачка, цымбалы, гуслі, дуда, ваўкалак, салоўка, кажан, маці, бацька, айчым, мора, кума.

А10. У кожным радзе знайдзіце "трэцяе лішняе":

1. Ян Чачот, Тамаш Зан, Ян Баршчэўскі
2. Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Цётка
3. "Прамова Мялешкі", "Тарас на Парнасе", "Ліст да Абуховіча"
4. "Вось цяпер які люд стаў", "Хрэст на свабоду", "Жалейка"
5. "Нявесце Каліноўскага", "Быў. Ёсць. Буду", "Бандароўна"

А11. Вызначце адпаведнасць літаратурных з'яў шляхам пастаноўкі лічбаў з левага слупка да слоў правага:

| | |
|---|---|
| 1. В. Быкаў | заснаваў філасофскую лірыку |
| 2. Ф. Багушэвіч | раскрыў тэму радзімы |
| 3. Я. Лучына | працаваў у публіцыстычным жанры |
| 4. К. Каліноўскі | прывіў новыя класічныя формы ў беларускай паэзіі |
| 5. М. Багдановіч | раскрыў праўду пра Вялікую Айчынную вайну |
| | заснаваў метад крытычнага рэалізму |

А12. Вызначце адпаведнасць, даставіўшы лічбу з левага слупка да слоў правага:

| | |
|---|---|
| 1. Эней | "Тарас на Парнасе" |
| 2. Венера | "Энеіда навыварат" |
| 3. Тарас | "Тутэйшыя" |
| 4. Спічыні | "Пінская шляхта" |
| 5. Густаў Шрэдэр | "Пошукі будучыні" |
| | "Жоўты пясочак" |

А13. Падкрэсліце назвы мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю М. Багдановіча:

1. Орша
2. Мінск
3. Яраслаўль
4. Ракуцёўшчына
5. Гародня

В1. Запішыце назву літаратурнага напрамку, які характарызуецца наступнымі рысамі: трагічная супярэчнасць, імкненне асобы да абсалютнай свабоды, да недасягаемага ідэалу; герой – адзіночка-бунтар...................................................................

В2. Назавіце творы (твор), якія

1. маюць аўтабіяграфічную аснову.......................................................................
2. раскрываюць падзеі ў двух планах (мінулае і сучаснае)....................................
3. напісаны па гарачых слядах падзей.....................................................................
4. з'яўляюцца трылогіяй...........................................................................................
5. дакументальна-мастацкія.....................................................................................

В3. Дапішыце крылатыя выслоўі і ўкажыце іх аўтараў:

1. Лечыцца трава ад спекі ліўнем,
   Людзі ...................................................................................................................
2. Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але.......................................

3. Бо як ёсць у народа такія – ..............................................................................
4. Усё пакінуць ..............................................................................................
5. Кожны чалавек – гэта ................................................................................

B4. Пазнайце назвы твораў паводле прыведзеных урыўкаў:

1. Траянцы ўзяліся за ядзенне,
Як з поля панскія харты,
Была ў іх з затаўкай крупеня,
Кулагу пхалі ў жываты.........................................................................
2. Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына.
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажно курыцца чупрына.......................................................................
3. Скакнуў – не трапіў, паслізнуўся
І ў яму старчаком лячу!
Ляцеў, ляцеў,– як разануўся,–
Аж стала зелена ўваччу!......................................................................
4. Не віхор калыша лесам,
Не ваўкі заводзяць,
Не разбойнікі талпою
За дабычай ходзяць.............................................................................
5. Назад не прыйдзе хваля тая,
Што з быстрай рэчкай уплывае...
Ніхто з граніц сваіх не выйдзе,
З законаў, жыццём напісаных..............................................................

B5. Пазнайце героя па апісанні і запішыце яго імя:

1. Як маліны, яе губкі,
А твар, як лілея,
Як дзве зоркі, яе вочы,
Гляне – свет яснее.............................................................................
2. З сваёй бярлогі на дарогу
Вылазіў грозны, з булавой,
Як пошасць, сеяў скрозь трывогу,
Загоны росячы крывёй.........................................................................
3. І знаў жа службу леснікову!
Ён ведаў, як свае пяць пальцаў,
Ну, да мала ўсіх мікалаўцаў
...Добры конь і цягне дужа!..................................................................

4. "Каштанавыя, вельмі іскрыстыя пад сонцам валасы гэтага хлопца ляжалі буйнымі хвалямі. Цёмна-шэрыя шырокія вочы спакойна глядзелі на імклівую плынь Дняпра"..........................................................................................

5. "Быў хлопец крэпкі, моцна зросся з зямлёю і жыццём, любіў гэта жыццё, на парозе якога ён стаяў"....................................................................

B6. Да іншамоўных тэрмінаў запішыце беларускія адпаведнікі:

1. патэр..............................................................................................
2. панегірык.......................................................................................
3. рэтраспекцыя...................................................................................

4. пастараль.......................................................................................................
5. рэгістратар.....................................................................................................

В7. На месцы пропуску ўпішыце прозвішча беларускага пісьменніка, які
1. прайшоў шлях ад настаўніка да акадэміка АН Беларусі..................................
2. дэбютаваў у першым нумары газеты "Наша доля" ........................................
3. напісаў раман у вершах "Родныя дзеці" ..........................................................
4. стаў песняром Беларусі, будучы адарваны ад яе з маленства.........................
5. нарадзіўся не ў Беларусі.....................................................................................

В8. Вызначце, у чым бачылі сэнс свайго жыцця згаданыя героі:
1. Андрэй Лабановіч..............................................................................................
2. Алесь Загорскі....................................................................................................
3. Янка Здольнік.....................................................................................................
4. Мікіта Зносак.....................................................................................................
5. Васіль Дзяцел.....................................................................................................

В9. Укажыце творы, з якіх узяты прыведзеныя цытаты і запішыце імя героя, якому яны належаць:

1. "Нам не трэба нічыйго дазволу на тое, каб дыхаць. А пісаць і гаварыць на сваёй мове гэтак натуральна, як дыхаць"...............................................................

2. "Справядлівасць! Дзе і калі яна была беднаму, цёмнаму чалавеку! Дзе яе шукаць яму, адзінокаму, безабароннаму, які, можна сказаць, і свету не бачыў далей сваёй вёскі..."..........................................................................................

3. "Кожны народ мае свой гонар. Англічанін перад усім светам горда заяўляе: я – англічанін! А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы – беларусы. Бо на галаву беларускага народа многа выліта памыяў, годнасць яго прыніжана і мова яго асмеяна..."...............................................................................

4. "Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас не надзялілі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй"......................

5. "Люба тут! Люба жыць сярод працы, свяцейшай усіх прац, працы земляроба. Люба мець здаровае цела і здаровы дух"...........................................................

В10. Вызначце памер і характар рыфмы паводле фанічнага і кампазіцыйнага значэння:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

..........................................................................................................................

В11. Запішыце прозвішчы пісьменнікаў, даты жыцця якіх прыведзены ніжэй:
1. 1883–1943.........................................................................................................
2. 1886–1941.........................................................................................................
3. 1907–1980.........................................................................................................
4. 1914–1947.........................................................................................................
5. 1900–1976.........................................................................................................

С1. Назавіце творы мастацкай літаратуры, прысвечаныя гістарычным асобам. Ахарактарызуйце адзін з іх.

## АДКАЗЫ ДА ТЭСТА 10

А1. 4
А2. 2
А3. 1, 2, 5
А4. 3, 4, 5
А5. 1, 4
А6. 4
А7. 1, 3, 5
А8. 1, 2, 5
А9. дуда, цымбалы, скрыпачка, ваўкалак, кажан, маці, бацька
А10. 1. Ян Баршчэўскі
2. Цётка
3. "Тарас на Парнасе"
4. "Вось цяпер які люд стаў"
5. "Бандароўна"
А11. 1. раскрыў праўду пра Вялікую Айчынную вайну
2. заснаваў метад крытычнага рэалізму
3. раскрыў тэму радзімы
4. працаваў у публіцыстычным жанры
5. прывіў новыя класічныя формы ў беларускай паэзіі, заснаваў філасофскую лірыку
А12. 1. "Энеіда навыварат"
2. "Энеіда навыварат"
3. "Тарас на Парнасе"
4. "Тутэйшыя"
5. "Пошукі будучыні"
А13. 2, 3, 4, 5
В1. рамантызм
В2. 1. "На ростанях", "Птушкі і гнёзды"
2. "Знак бяды", "Сэрца на далоні"
3. "Вязьмо"
4. "На ростанях"
5. "На імперыялістычнай вайне", "У вайны не жаночае аблічча"
В3. 1. Лечыцца трава ад спекі ліўнем,
Людзі ласкай лечацца людской. П. Панчанка
2. Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба ведаць сваю. Ф. Багушэвіч
3. Бо як есць у народа такія –
Не загіне да веку народ. У. Караткевіч
4. Усё пакінуць след павінна. П. Броўка
5. Кожны чалавек – гэта цэлы свет. К. Чорны
В4. 1. "Энеіда навыварат"
2. "Гапон"
3. "Тарас на Парнасе"
4. "Бандароўна"
5. "Новая зямля"
В5. 1. Бандароўна
2. Машэка
3. Міхал
4. Алесь Загорскі
5. Андрэй Лабановіч

B6. 1. айцец
2. хвалебны
3. погляд назад
4. пастухоўскі
5. пісар

B7. 1. К. Крапіва
2. Я. Колас
3. Н. Гілевіч
4. М. Багдановіч
5. П. Панчанка

B8. 1. служыць народу
2. змагацца за народ
3. адраджаць свой край
4. даслужыцца да асэсарства
5. мець сваю гаспадарку

B9. 1. А. Загорскі "Каласы пад сярпом тваім"
2. В. Дзяцел "Людзі на балоце"
3. А. Лабановіч "На ростанях"
4. Я. Здольнік "Тутэйшыя"
5. А. Лінкевіч "Роднае карэнне"

B10. чатырохстопны ямб, дакладная, перакрыжаваная

B11. 1. Д. Аляхновіч
2. З. Бядуля
3. С. Дзяргай
4. В. Таўлай
5. У. Дубоўка

## ТЭЗАЎРУС

1. АГІЯГРАФІЯ (грэч. hagios "святы" і grapho "пішу") – жанр рэлігійна-біяграфічнай літаратуры аб жыцці святых, подзвігах і пакутах кананізаваных царквой людзей. Жыціі дзеляцца на арыгінальныя і перакладныя.

2. АДРАДЖЭННЕ, або РЭНЕСАНС (франц. Renaissance "адраджэнне"), – эпоха станаўлення ў Еўропе духоўнай культуры новага часу ў XIV – першай палове XVI ст. Эпоха Адраджэння характарызуецца прагрэсіўнымі зменамі ў эканамічным і палітычным жыцці еўрапейскіх краін, развіццём грашовай гаспадаркі, ростам гарадоў, фарміраваннем нацыянальных дзяржаў і абсалютных манархій, узмацненнем антыфеадальнай і рэлігійнай барацьбы, уздымам навукі і мастацтва, узнікненнем кнігадрукавання.

3. АКСЮМАРАН (грэч. oxymoron "дасціпна-недарэчны") – мастацкі прыём спалучэння неспалучальных (лагічна не сумяшчальных) слоў, якія ў сціслай канструкцыі ўтвараюць новае паняцце, уяўленне, з'яўляюцца асновай экспрэсіўнага эфекту – супярэчлівых па сваёй сутнасці вобразаў, перадачы складаных псіхічных адчуванняў: халоднае цяпло (І. Шамякін), смутная радасць (М. Лынькоў).

4. АКТАВА (лац. octava "восьмая") – васьмірадковая страфа, у якой першыя шэсць радкоў аб'яднаны дзвюма перакрыжаванымі рыфмамі, а два апошнія – сумежнай рыфмай. Большасць актаў характарызуецца філасофска-элегічным ці апавядальным зместам.

5. АЛЕГОРЫЯ (грэч. allegoria "іншасказанне") – раскрыццё абстрактнага паняцця (ідэі) шляхам канкрэтнага мастацкага вобраза.

6. АЛІТЭРАЦЫЯ (лац. ad "пры, да", litera "літара") – паўтарэнне ў вершаванай мове аднолькавых або падобных зычных гукаў з мэтай узмацнення гукавой выразнасці твора.

7. АМОНІМЫ (грэч. homos " аднолькавы", onyma "імя") – словы з аднолькавым гучаннем, але рознымі, семантычна не звязанымі паміж сабой значэннямі: рысь – 1) хуткі алюр; 2) драпежная жывёліна.

8. АМФІБРАХІЙ (грэч. amphibrachys "кароткі з абодвух бакоў") – трохскладовая стапа з націскам на другім (сярэднім) складзе.

9. АНАПЕСТ (грэч. anapaiston "звернуты назад") – трохскладовая стапа з націскам на апошнім (трэцім) складзе.

10. АНАФАРА (грэч. anaphora "вынясенне ўверх") – паўтарэнне аднолькавых слоў, выразаў, гукавых спалучэнняў у пачатку вершаваных строф або сказаў з мэтай надання твору эмацыянальна-ўзвышанага тону, з'яднання ў адно цэлае яго асобных частак, сэнсавага і лагічнага падкрэслівання найбольш важных думак.

11. АНТЫТЭЗА (грэч. antithesis "супрацьпастаўленне") – супрацьпастаўленне процілеглых або кантрастных паняццяў, вобразаў, прадметаў, з'яў і інш.

12. АПОКРЫФ (грэч. apokryphos "таемны, запаветны") – старажытны твор рэлігійна-легендарнага характару (пра стварэнне Сусвету, Адама і Еву, дзейнасць Ісуса Хрыста і апосталаў, пра пекла і рай, замагільнае жыццё і інш.). Апокрыфы не прызнаваліся царквой з-за разыходжанняў іх зместу з афіцыйным веравучэннем.

13. АРХАІЗМЫ (грэч. archilos "старажытны") – устарэлыя словы, якія ў сучаснай мове замяняліся сінонімамі (перст – палец, каліта – сумка, скрыжалі – законы).

14. АСАНАНС (франц. assonance "сугучны") – паўтарэнне ў вершы аднолькавых або падобных галосных гукаў.

15. АСВЕТНІЦТВА – грамадска-палітычная плынь перыяду станаўлення капіталізму, прадстаўнікі якой прапаведавалі прыярытэт сілы чалавечага розуму, асветы і навукі ў жыцці грамадства. Асветнікі патрабавалі дэмакратычных свабод, сацыяльнай роўнасці, выступалі за ахову правоў чалавека, развіццё ведаў, лічылі, што ўвасабленне на практыцы асветніцкіх ідэй прывядзе чалавека да "царства" розуму, дзе не будзе месца няроўнасці, жорсткасці, злу.

16. АЎТОГРАФ (грэч. auto "сам", grapho "пішу") – тэкст літаратурнага твора, навуковай працы, запісак, лістоў, напісаны рукой аўтара.

17. АФАРЫЗМ (грэч. aphorismos "кароткае выказванне") – выслоўе, у якім у трапнай, лаканічнай і вобразнай форме выказана арыгінальная думка.

18. БАЙКА – кароткі літаратурны твор алегарычнага зместу з павучальнай канцоўкай.

19. БАЛАДА ( франц. ballade ад лац. ballo "танцую") – сюжэтны твор казачна-фантастычнага, легендарна-гістарычнага ці гераічнага зместу.

20. БАРОКА (італ. barocco "дзіўны, вычварны") – вызначальны стыль у еўрапейскім мастацтве канца XVI – сярэдзіны XVIII ст. Узнік на аснове традыцый позняга Адраджэння і спалучаў у сабе рэнесансавыя і сярэдневяковыя традыцыі. Літаратурныя творы барочнага стылю вызначаліся складанасцю выяўленчых сродкаў, спалучэннем розных традыцый і тэндэнцый, пышнай дэкаратыўнасцю, метафарычным і алегарычным выражэннем сэнсу, імкненнем паўплываць на пачуцці чытача ці гледача.

21. БЕЛЫ ВЕРШ – верш без рыфмы ў сілабічным і сілаба-танічным вершаскладаннях. Узнік у XVI ст. як перайманне (імітацыя) вершаў антычнай паэзіі, дзе адсутнічала рыфма.

22. БУРЛЕСКА (франц. burlesque, італ. burlesca ад burla "жарт") – жанр камедыйна-парадыйнай паэзіі. Вядомы ў беларускай літаратуры ў часы Асветніцтва (канец XVIII – пачатак XIX ст). У аснове бурлескных твораў – пародыі і сюжэты з Бібліі ("Уваскрэсенне Хрыстова", Калядкі) ці антычнай міфалогіі ("Энеіда навыварат", "Тарас на Парнасе") з камічным, наўмысна перабольшаным паказам розных жыццёвых з'яў.

23. ВАДЭВІЛЬ (франц. vaudeville) – лёгкая камедыйная п'еса, асноўная дзея ў якой спалучаецца з музыкай, песнямі, куплетамі, танцамі.

24. ВЕРЛІБР (франц. vers libre "свабодны верш"), або СВАБОДНЫ ВЕРШ – верш без рыфмы з філасофскімі разважаннямі.

25. ВОБРАЗ – спосаб і форма адлюстравання жыцця ў мастацтве і літаратуры. Пры стварэнні вобраза адбываецца абагульненне тыповага праз канкрэтнае (індывідуальнае), у выніку чаго адзінкавая з'ява ўспрымаецца як агульная.

26. ВОЛЬНЫ ВЕРШ – рыфмаваны сілаба-танічны верш з адвольнай колькасцю стоп у радках і рознай рыфмоўкай.

27. ГЕКЗАМЕТР (грэч. hexametron, ад hex "шэсць" і metron "мера") – вершаваны памер антычнай сістэмы вершаскладання, шасцістопны дактыль з усечанай на адзін склад шостай стапой і паўзай у сярэдзіне радка.

28. ГІМН (грэч. gymnos "хвала", "усхваленне") – урачыстая песня ў гонар якога-небудзь героя, выдатныя падзеі, з'явы, дзяржавы.

29. ГІПЕРБАЛА (грэч. hyperbole "перабольшванне") – моцнае перабольшванне якіх-небудзь уласцівасцей чалавека, прадмета або з'вы з мэтай завастрыць на іх увагу.

30. ГІСТАРЫЗМЫ – устарэлыя словы, якія выйшлі з актыўнага ўжытку па прычыне знікнення прадметаў, з'яў, паняццяў, якія яны абазначалі.

31. ГРАДАЦЫЯ (лац. gradatio "паступовае ўзвышэнне") – стылістычная фігура, якая заключаецца ў тым, што ў вершаваных радках групуюцца словы ці выразы з нарастаннем ці аслабленнем іх эмацыянальна-сэнсавай выразнасці.

32. ГРАТЭСК (франц. grotesyue "смешны, незвычайны") – празмернае перавелічэнне, перабольшванне, спалучэнне нечаканых і рэзкіх кантрастаў, сумяшчэнне рэальнага і фантастычнага, прыгожага і агіднага, трагічнага і камічнага.

33. ГУТАРКІ – спецыфічны жанр беларускай літаратуры, які ўзнік, аформіўся, стаў шырока распаўсюджаным у XIX ст. Гэта своеасаблівая часціна сялянска-народнага эпасу, мастацка-публіцыстычныя, вершаваныя ці празаічныя творы.

34. ДАКТЫЛЬ (грэч. dactylos "палец") – трохскладовая стапа з націскам на першым складзе.

35. ДРАМА (грэч. drama "дзеянне") – адзін з найбольш пашыраных жанраў драматычных твораў, у якім жыццё раскрываецца ў вострых калізіях, супярэчнасцях ("Раскіданае гняздо" Я. Купалы, "Парог" А. Дударава).

ДРАМА – адзін з трох родаў літаратуры, у якім пісьменнік усе свае думкі і пачуцці перадавярае дзеючым асобам. Галоўнымі драматычнымі жанрамі з'яўляюцца камедыя, трагедыя, драма, меладрама, вадэвіль, фарс.

36. ДЫЛОГІЯ (грэч. di "двойчы", logos "слова") – твор, які складаецца з дзвюх самастойных частак, звязаных аднымі героямі і сюжэтам. Дылогія А. Адамовіча "Партызаны" складаецца з раманаў "Вайна пад стрэхамі" і "Сыны ідуць у бой".

37. ДЫФІРАМБ (грэч. dithyrambos "песня") – верш урачыста-хвалебнага зместу ў гонар нейкага героя, горада, Бога.

38. ДЫЯРЫУШ – форма апавядання ў выглядзе храналагічных запісаў падзей, у якіх сам аўтар удзельнічаў ці быў іх сведкам. Найбольш вядомымі з'яўляюцца "Дыярыуш" А. Філіповіча, "Гістарычныя запіскі" Ф. Еўлашоўскага, "Баркулабаўскі летапіс", "З дыярыуша горада Слуцка".

39. ЖЫЦІЕ, або АГІЯГРАФІЯ (грэч. hagios "святы" і grapho "пішу"), – жанр рэлігійна-біяграфічнай літаратуры аб жыцці святых, подзвігах і пакутах кананізаваных царквой людзей.

40. ІДЭЯ ( грэч. idea "паняцце, ідэал") – асноўны сэнс літаратурнага твора, вывад (разумовае заключэнне), да якога пісьменнік прыводзіць чытача.

41. ІНВЕРСІЯ (лац. inversion "перастаноўка") – перастаноўка звычайнага парадку слоў у сказе з мэтай падкрэслівання сэнсавай значнасці, паэтычнай выразнасці пэўных слоў або надання ўсёй фразе своеасаблівай інтанацыі, стылістычнай афарбоўкі.

42. ІРОНІЯ (грэч. eironeia "прытворства, насмешка") – літаратурны прыём, калі словы ці словазлучэнні са станоўчым значэннем выкарыстоўваюцца для адмоўнай характарыстыкі чалавека, грамадскай з'явы, падзеі.

43. КАМЕДЫЯ (грэч. komos "вясёлы" і ode "песня") – жанр драматычнай літаратуры, у якім камічна, у смешным выглядзе паказваюцца розныя з'явы жыцця з мэтай іх крытыкі.

44. КАМПАЗІЦЫЯ (лац. composition "складанне, упарадкаванне, злучэнне") – будова мастацкага твора: размяшчэнне і спалучэнне асобных частак, састаўных элементаў сюжэта (экспазіцыі, завязкі, кульмінацыі, развязкі, эпілога), сцэн, эпізодаў, дыялогаў, маналогаў і інш.

45. КАТРЭН (франц. quatrain "чатырохрадкоўе") – страфа з чатырох вершаваных радкоў і рознай іх рыфмоўкай.

46. КЛАСІЦЫЗМ (лац. classicus "узорны") – мастацкі метад і напрамак у літаратуры другой паловы XVII – пачатку XIX ст., адной з характэрных рыс якога з'яўляецца зварот да форм антычнай літаратуры і мастацтва як дасканалага эстэтычнага ўзору. Асноўнымі жанрамі літаратуры класіцызму былі паэма-эпапея, трагедыя, ода, раман, у якіх праслаўляліся чалавек і сіла яго розуму, гарманічнасць і ўпарадкаванасць быцця.

47. ЛЕТАПІС – адзін з жанраў старажытнай літаратуры. Гэта гістарычны твор з пагадовымі запісамі найбольш значных падзей грамадскага, палітычнага, культурнага і эканамічнага жыцця.

48. ЛІРЫКА (грэч. lyrikos "музычны, напеўны") – адзін з трох родаў літаратуры, які адлюстроўвае рэчаіснасць праз вобраз-перажыванне.

49. ЛІРЫЧНЫ ГЕРОЙ – вобраз той асобы, ад імя якой ідзе размова ў лірычным вершы. У вобразе лірычнага героя знаходзіць увасабленне духоўны свет самога аўтара.

50. ЛІТАРАТУРНЫ ТЫП – моцна абагульнены мастацкі вобраз, што ўвасабляе сацыяльныя, маральна-псіхалагічныя, філасофскія і іншыя асаблівасці жыцця, характэрныя для пэўнай эпохі, пэўнага асяроддзя.

51. ЛІТОТА (грэч. litotes "прастата, дробязь") – мастацкі прыём, супрацьлеглы гіпербале. Гэта моцнае перамяншэнне якіх-небудзь уласцівасцей ці прыкмет (сілы, як у камара; розум з макава зерне).

52. МАДЭРНІЗМ (франц. modernisme ад modern "сучасны, навейшы") – напрамак у літаратуры і іншых відах мастацтва канца XIX – пачатку XX ст. Да мадэрніцкіх плыняў адносяцца экспрэсіянізм, футурызм, акмеізм, імажынізм, сюррэалізм, авангардызм, экзістэнцыялізм і інш.

53. МЕДЫТАЦЫЯ (лац. meditatio "развага, роздум") – жанр філасофскай лірыкі, у якім выказваюцца глыбокія роздумы паэта над складанымі жыццёвымі праблемамі (напрыклад, сэнсам жыцця і смерці, дружбы і кахання).

54. МЕЛАДРАМА (грэч. melos "песня", drama "дзеянне") – драматычны твор, якому ўласцівы дынаміка і вастрыня, займальнасць інтрыгі, павышаная эмацыянальнасць.

55. МЕТАФАРА (грэч. metaphora "перанос") – перанос назваў адных з'яў ці прадметаў на другія на аснове іх знешняга ці ўнутранага падабенства.

56. НАВЕЛА (італ. novella "навіна") – малая апавядальна-эпічная форма, блізкая да апавядання. У адрозненне ад апошняга, навела адлюстроўвае не звычайнае, надзённае жыццё, а выключныя, незвычайныя і інтрыгуючыя выпадкі, здарэнні, факты, эпізоды, апісанне якіх суправаджаецца напружанасцю, драматызмам дзеяння.

57. НАРЫС – твор, блізкі да апавядання, заснаваны на сапраўдных фактах, адметных падзеях, якія мелі месца ў жыцці. Героямі ў нарысах з'яўляюцца не выдуманыя персанажы, а рэальныя асобы.

58. ОДА (грэч. ode "песня") – урачысты, узнёслы паэтычны верш, хвалебная песня ў гонар важнай падзеі ці асобы.

59. ПАМФЛЕТ (англ. pamphlet "сатырычны твор") – мастацка-публіцыстычны твор сатырычнага, выкрывальнага характару. Аб'ектам сатыры ў памфлеце можа быць якая-небудзь асоба, палітычная з'ява, грамадскі лад і інш.

60. ПАРАЎНАННЕ – адзін з тропаў, пры дапамозе якога дасягаецца трапная характарыстыка якіх-небудзь прадметаў, з'яў ці ствараецца яркі запамінальны вобраз.

61. ПАРОДЫЯ (грэч. parodia ад para "супраць" і ode "песня") – твор, заснаваны на карыкатурным перайманні асаблівасцей нейкага твора, яго сюжэта, творчай манеры, стылю пісьменніка.

62. ПАЭМА (грэч. poiema "тварэнне") – буйная вершаваная форма ліра-эпічнага жанру, якая адлюстроўвае жыццё ў яго вышэйшых момантах і характарызуецца абагульнена-сімвалічнай тыпізацыяй, экспрэсіўнасцю, узнёсласцю, паэтычнасцю.

63. ПЕНТАЛОГІЯ (грэч. pente "пяць", logos "слова") – цыкл твораў з пяці частак.

64. ПЕНТАМЕТР (грэч. pentametros "пяцімернік") – пяцістопны вершаваны памер у антычнай (метрычнай) сістэме вершаскладання. Звычайна ўключаў пяць дактыляў і ўжываўся ў чаргаванні з гекзаметрам.

65. ПЕРЫФРАЗА (грэч. periphrasis "апісальны выраз, алегорыя") – семантычна непадзельны выраз, які апісальна абазначае прадмет або дзеянне, паказваючы аднача-сова яго адметнасць ці ўказваючы на якую-небудзь важную асаблівасць, уласцівасць.

66. ПРАТАТЫП (грэч. prototypon "правобраз") – канкрэтная асоба, жыццё і характар якой пакладзены пісьменнікам у аснову створанага ім мастацкага вобраза.

67. ПРЫТЧА – іншасказальны твор павучальнага характару. Яна шырока прад-стаўлена ў сусветнай літаратуры, біблейскіх тэкстах, фальклоры як самастойна, так і ў спалучэнні з іншымі жанрамі.

68. РАМАН (франц. roman "твор на якой-небудзь раманскай мове") – эпічны твор самай вялікай формы.

69. РАМАНС (франц. romance < roman "раманскі") – невялікі лірычны верш напеўнага характару.

70. РАМАНТЫЗМ (франц. romantisme "літаратурны напрамак") – ідэйна-мастацкі кірунак у еўрапейкай літаратуры і мастацтве канца XVIII – пачатку XIX ст. Яго характэрнымі асаблівасцямі з'яўляюцца крытычныя адносіны да існуючага ладу, непрыняцце тагачаснай рэчаіснасці. Героі рамантычных твораў – мужныя, сме-лыя, незалежныя, моцныя духам людзі, схільныя да глыбокіх перажыванняў і пачуц-цяў. У беларускай літаратуры рамантызм развіваўся ў спалучэнні з традыцыямі класіцызму і сентыменталізму, пад моцным уплывам польскіх рамантыкаў і меў фальклорна-этнаграфічны характар.

71. РЫФМА (грэч. rhythmos "суразмернасць, узгодненасць") – паўтаральная сугучнасць асобных слоў ці іх частак на адных і тых жа месцах у вершаваных радках.

72. РЭАЛІЗМ (лац. realitas "рэчаіснасць", realis "сапраўдны") – творчы метад у літаратуры і мастацтве, які ставіць мэтай праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці ў яе тыповых формах. Найважнейшы яго прынцып – аб'ектыўная гістарычная праўда.

73. РЭФАРМАЦЫЯ (лац. reformation "пераўтварэнне, змяненне") – шырокі грамадска-палітычны і ідэалагічны рух у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе XVI ст., скіраваны супраць феадалізму і набыўшы форму рэлігійнай барацьбы супраць каталіцкай царквы.

74. РЭФРЭН (франц. refrain "прыпеў") – радок або некалькі радкоў, якія паўта-раюцца ў канцы кожнага куплета верша ці песні.

75. САНЕТ (іт. sonetto < праванс. sonnet "песенька") – лірычны верш з чатыр-наццаці радкоў (двух чатырохрадкоўяў і двух трохрадкоўяў) і з асаблівай рыфмоўкай. У першых чатырохрадкоўях звычайна развіваецца тэма твора, у трохрадкоўях – ідэя, вывад.

76. САРКАЗМ (грэч. sarkasmos "здзек") – разнавіднасць іроніі (найвышэйшая яе ступень), з'едлівая, вострая, злосная насмешка, накіраваная супраць адмоўных, шкодных варожых з'яў у жыцці грамадства.

77. САТЫРА (лац. satira, satura "сумесь усялякае ўсячыны") – адна з форм вострага, камічнага, выкрывальнага паказу адмоўных з'яў і заган жыцця грамадства.

78. СЕНТЫМЕНТАЛІЗМ (франц. sentimentalisme < sentiment "пачуццё, чуллівасць") – напрамак (плынь) у літаратуры і мастацтве другой паловы XVIII – пачатку XIX ст., які характарызаваўся асаблівай увагай да душэўнага стану чалавека і яго пачуццяў.

79. СІМВАЛІЗМ (франц. symbolisme < грэч. symbolon "знак, сімвал") – літаратурна-мастацкі кірунак канца XIX – пачатку XX ст., прадстаўнікі якога абвяшчалі сваім мастацкім прыёмам сімвал як універсальны сродак выяўлення эстэтычных ідэалаў і духоўнай сутнасці быцця.

80. СТАПА – спалучэнне аднаго націскнога (доўгага) з адным ці двума ненаціскнымі (кароткімі) складамі, якое раўнамерна паўтараецца ў вершаваным радку.

81. СТРАФА (грэч. strophe "паварот") – інтанацыйна-сэнсавае аб'яднанне некалькіх вершаваных радкоў, звязаных у большасці выпадкаў агульнай рыфмай. У залежнасці ад колькасці радкоў адрозніваюць строфы двухрадковыя (двухрадкоўі, двувершы), трохрадковыя (трохрадкоўі), чатырохрадковыя (катрэны) і г.д.

82. СЮЖЭТ (франц. sujet "прадмет, змест") – сістэма падзей у творы (усё тое, што адбываецца з героямі).

83. ТРАГЕДЫЯ (грэч. tragoidia ад tragos "казёл" і ode "песня") – драматычны твор, сюжэт якога заснаваны на канфлікце незвычайнай вастрыні і напружанасці, крайне вострым, антаганістычным сутыкненні характараў.

84. ТРАГІКАМЕДЫЯ – драматургічны твор, заснаваны на спалучэнні камічнага і трагічнага элементаў.

85. ТРОПЫ (грэч. tropos "паварот") – словы ці моўныя выразы, ужытыя ў пераносным значэнні.

86. ТРЫЛОГІЯ (грэч. trilogia ад tri "тры" і logos "слова") – тры літаратурныя творы, аб'яднаныя агульнасцю ідэйнай задумы, галоўных герояў і пераемнасцю сюжэта.

87. ТРЫЯЛЕТ (франц. triolet < італ. trio "трое") – васьмірадковы верш, у якім чацвёрты і восьмы радок паўтараюць першы, а сёмы радок – другі.

88. ТЭМА (грэч. thema "галоўная думка") – гэта жыццёвая праблема, пастаўленая пісьменнікам у творы.

89. ТЭТРАЛОГІЯ (грэч. tetralogia ад tetra "чатыры") – чатыры літаратурныя творы аднаго аўтара, аб'яднаныя агульнай ідэяй і пераемнасцю сюжэта.

90. УВАСАБЛЕННЕ – разнавіднасць метафары, наданне чалавечых якасцей і ўласцівасцей неадушаўлёным прадметам, рэчам, раслінам, з'явам прыроды, абстрактным паняццям.

91. ФАБУЛА (франц. fibula "апавяданне, байка, казка") – падзейная схема сюжэта мастацкага твора, пераказ падзей у іх храналагічнай, прычынна-выніковай паслядоўнасці.

92. ФАРС (франц. farce "п'еса жартаўлівага характару") – тэатральная п'еса лёгкага, жартаўлівага, часам фрывольнага зместу.

93. ФЕЛЬЕТОН (франц. feuilleton "аркуш") – жанр мастацкай публіцыстыкі, кароткі артыкул на надзённую тэму, у якім высмейваюцца якія-небудзь заганы грамадскага жыцця.

94. ФІЛАМАТЫ (грэч. philomathes "той, хто імкнецца да ведаў") – тайнае студэнцкае таварыства ў Віленскім універсітэце, створанае восенню 1817 года па ініцыятыве Тамаша Зана і Адама Міцкевіча.

95. ФІЛАРЭТЫ (грэч. philaretos "той, хто любіць дабрачыннасці") – нелегальнае студэнцкае аб'яднанне ў Віленскім універсітэце ў 1820–1823 гг., рэарганізаванае Таварыства прамяністых. Старшынёй яго з'яўляўся Тамаш Зан.

96. ХАДЖЭННІ – адзін з жанраў старажытнарускай літаратуры, у якім апісваюцца падарожжы ў "святую зямлю" (Палесціну). Адным з найбольш ранніх з'яўляецца "Хаджэнне ігумена Данііла" (XII ст.).

97. ХАРЭЙ (грэч. choreios "танцавальны") – двухскладовая стапа з націскам на першым (няцотным) складзе.

98. ЭКСПАЗІЦЫЯ (лац. exposition "выкладанне, паказ") – уступная частка, у якой прыводзяцца першыя звесткі пра герояў, апісваюцца абставіны, месца і час дзеяння.

99. ЭЛЕГІЯ (грэч. elegeia "жалобная песня") – жанр лірычнай паэзіі, верш, прасякнуты сумным настроем, пачуццём тугі, журбы, роздуму.

100. ЭПАС (грэч. epos "слова, апавяданне") – адзін з родаў мастацкай літаратуры, які аб'ектыўна і шматбакова адлюстроўвае рэчаіснасць, пэўныя падзеі, жыццё чалавека.

101. ЭПІГРАМА (грэч. epigramma "надпіс") – невялікі (звычайна ад двух да васьмі радкоў) сатырычны верш, у якім дасціпна высмейваюцца пэўная асоба ці грамадская з'ява.

102. ЭПІГРАФ (грэч. epihraphe "надпіс") – кароткая цытата, выразны ўрывак з празаічнага твора, літаратурна-крытычнага артыкула, вершаваны радок, крылаты выраз, прыказка ці прымаўка, змешчаныя аўтарам перад тэкстам твора ці яго асобнага раздзела з мэтай своеасаблівага тлумачэння асноўнай мастацкай ідэі, задумы твора.

103. ЭПІЛОГ (грэч. epilogos "пасляслоўе") – заключная частка твора, якая паведамляе пра далейшы лёс герояў.

104. ЭСЭ (франц. essai "спроба, нарыс") – від філасофскага, літаратуразнаўчага, навукова-гістарычнага або публіцыстычнага твора, напісанага ў свабоднай форме.

105. ЯМБ (грэч. jambos "нападаючы") – двухскладовая стапа з націскам на другім (звычайна цотным) складзе.

# ЛІТАРАТУРА


1. Беларуская энцыклапедыя: Т. 1–6.– Мн., 1996–1998.
2. Беларускія пісьменнікі (1917–1990): даведнік.– Мн., 1994.
3. Бельскі А.І., Кароткі У.Г., Навуменка П.І., Тарасюк Л.К., Шамякіна Т.І. Беларуская літаратура: XI–XX стагоддзі: дапаможнік для школ, ліцэяў, гіназій, ВНУ.– Мн., 1999.
4. Гаэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры.– Мн., 1992.
5. Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. Т. 1: 1901–1920.– Мн., 1999.
6. Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. Т. 2: 1921–1941.– Мн., 1999.
7. Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд / Пад рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча.– Мн., 1998.
8. Гісторыя беларускай літаратуры: XIX – пачатак XX ст. / Пад рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча.– Мн., 1998.
9. Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: 1917–1940 / Пад рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча.– Мн., 1981.
10. Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: 1940–1980 / Пад рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча.– Мн., 1983.
11. Грамадчанка Т.К. Беларуская літаратура. Школьныя творы: Кароткі змест і аналіз.– Мн., 1999.
12. Лазарук М.А., Ленсу А.Я. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў.– Мн., 1996.
13. Ламека Л.А. Сучасная беларуская літаратура: дапаможнік для навучэнцаў, абітурыентаў і настаўнікаў.– Мн., 1998.
14. Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд: у 2 ч.– Мн., 1989.
15. Майсейчык А.А. Уводзіны ў літаратуразнаўства: практыкум.– Мн., 1992.
16. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыклапедычны даведнік.– Мн., 1995.
17. Рагойша В.П. Паэтычны слоўнік.– Мн., 1979.
18. Родная літаратура ў 8 класе: вучэб.-метад. дапаможнік для настаўнікаў.– Мн., 1998.
19. Семяновіч А.А. Гісторыя беларускай савецкай драматургіі: 1917–1955.– Мн., 1990.
20. Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік.– Мн., 1988.
21. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1–5.– Мн., 1994–1998.
22. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва. Т. 1–5.– Мн., 1984–1987.
23. Янка Купала: энцыклапедычны даведнік.– Мн., 1986.

# ЗМЕСТ

*Вучэбнае выданне*

**Урбановіч** Лілія Уладзіміраўна

# ТЭСТЫ ПА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

***Падрыхтоўка да экзамена***
***Кантроль***
***Самаацэнка***

**Вучэбны дапаможнік**

Тэхнічны рэдактар *А.І. Юшчук*
Камп'ютэрная вёрстка *А.І. Юшчук*

Падпісана ў друк 19.05.2006. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Аддрукавана на рызографе.
Ум. друк. арк. 4,42. Ул.-выд. арк. 6,75.
Заказ 520. Тыраж экз.

ЛВ № 02330/0133468 ад 09.02.2005 г.

Выдавецтва і паліграфічнае выкананне:
Установа адукацыі
"Баранавіцкі дзяржаўны універсітэт",
225404 г. Баранавічы, вул. Войкава, 21